Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 34 (2280) 20 жніўня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

## НА СКРЫЖАВАННІ ТВОРЧЫХ І ЖЫЦЦЁВЫХ ДАРОГ

# «Я ПАПРАСІЎ БЫ МЕФІСТОФЕЛЯ...»

Не верыцца, што Адаму Мальдзісу ўжо 60. Ці даўно тут мы з ім хадзілі універсітэцкімі калідорамі, у бібліятэцы набіралі стосы кніг, рыхтаваліся ў кабінетах да семінарскіх заняткаў. І на табе — дажыў да пенсіі.

Збіраючыся на сустрэчу з ім дзеля гэтага самага інтэрв'ю, я пачаў перабіраць на паліцах кнігі з яго аўтографамі. І раптам наткнуўся на тры таўшчэзныя тамы Марксавага «Капітала», якія, здаўшы экзамен па палітэканоміі, Адам адступіў мне, маладзейшаму курсам. Гэта я і прыгадаў яму цяпер, пад юбілей.

— У мяне так і не хапіла духу дайсці да апошняй старонкі, хаця было палкае жаданне — дакапацца да ісціны. Ты ж, Адаме, быў больш «уедлівы» за астатнюю студэнцкую брацію, ці ты асіліў увесь «Капітал»?

— Здаецца, дачытаў да канца і нават законспектаваў, але з вялікімі намаганнямі. Я лічыў гэта для сябе справай гонару ці што, бо тады ж прынята было вучыць па нейкіх дапаможніках, дзе ўсё было спрошчана і вульгарызавана, але нібы зразумела, думаць не трэба, усё за нас разжавана. А я хацеў дакапацца да ўсяго сам, дайсці сваім розумам,таму і браўся за першакрыніцы.

— А цяпер прызнайся: табе не шкада патрачанага часу на тую навуку, што нам выкладалі ў 50-я гады? Я часта ўздыхаю: каб сённяшні час ды на нашыя маладыя гады...

— Чаму ж не шкада? Вельмі нават шкада. Мы многа вывучалі таго, што потым абсалютна не прыдалося, пустога і непатрэбнага. І наадварот, мы былі аддзелены ад такіх крыніц, як сусветная філасофія, сусветнае літаратуразнаўства. Мы ж вывучалі ўсё вельмі спрошчана: белае — чорнае, сацрэалізм — несацрэалізм, ну, а калі не, то значыць — варожае. Можа таму, што я ведаў польскую мову і нямецкую, мне ўдалося ўзяць больш ад навукі — даставаў і чытаў замежныя часопісы.

А наогул мы выйшлі з універсітэта людзьмі зашоранымі, якія шукалі ў жыцці толькі два колеры. Або сябар, або вораг, сярэдзіны не было. Гэта адбівалася і на нашых поглядах на эміграцыю. Калі камуніст, то з ім яшчэ можна падтрымліваць кантакты. Хаця таксама вымагалася быць асцярожным...

— ...Бо ён не наш камуніст, а замежны.

— Так, а калі проста сумленны чалавек, але жыве там, то гэта павінен быць толькі вораг.

— І калі да цябе прыйшло ўсведамленне таго, што ў нашым «каралеўстве» пабудавана ўсё не так, адбываецца нешта зусім супрацьлеглае нармальнай логіцы, калі раскрыліся вочы? Думаю, што задоўга да «перабудовы»?

— Відаць, гэта пачалося ў час хрушчоўскай «адлігі». А нават і яшчэ раней. Сумненні выклікалі дыскамфорт. Успамінаю майго бацьку, які прайшоў вялікую жыццёвую школу, быў у нямецкім палоне ў першую сусветную вайну, уцякаў адтуль. Дык вось ён вельмі скептычна ставіўся да сталінскага рэжыму. І калі мы з маладым запалам на высокіх нотах пачыналі яму нешта даказваць, ён гэтак спакойна гаварыў: «Чалавеку найперш павінна добра жыцца. І спакойна».

(Заканчэнне на 6-й стар.).

**Напэўна, цяпер пры слове Беларусь часцей за ўсё іншаземцы будуць вымаўляць: «О, гэта Віталій Шчэрба!»**

**Так, уладальнік шасці залатых медалёў на Алімпіядзе ў Барселоне Віталій Шчэрба дабавіў славы і гонару нашай дзяржаве, нашаму працавітаму, сціпламу і такому таленавітаму народу. Яго імя нароўні з такімі выдатнымі беларускімі спартсменамі, як Аляксандр Мядзведзь і Вольга Корбут. Не будзем шкадаваць, што унікальны поспех знакамітага цяпер мінчаніна не цалкам належыць беларусам, бо нашы спартсмены выступалі ў аб'яднанай камандзе СНД, але можна сабе ўявіць, якое месца заняла б на Алімпіядзе Беларусь, будзь яна пад сваім флагам.**

**Звычайна спартсменаў высокага класа пасля такога гучнага поспеху на радзіме сустракаюць самымі зваблівымі прапановамі. Віталій Шчэрба пакуль толькі мае надзею, што яму прапануюць нешта прыстойнае і што наш Спорткамітэт дапаможа вырашыць некаторыя асабістыя праблемы.**

**Віталій Шчэрба любіць гімнастыку і не церпіць журналістаў. Яго талісманам на Алімпіядзе былі вялікі залочаны крыж, які ён купіў у Італіі. Можа ўкрыжаваны Ісус Хрыстос даў такую моц нашаму земляку...**



**НА ЗДЫМКУ: пераможца барселонскай Алімпіяды Віталій ШЧЭРБА.**

**„АДКАЖЫ ты мне, як мы дайшлі да такога стану? Гарады — груды руін, дарогі ад бамбёжак— нібыта піла, уверх-уніз, палі начамі свецяцца радыеактыўныя... Вось і скажы, Том, што гэта, калі не апошняя падласць?» Помню, як многа гадоў назад узрушыў мяне гэты страшны вобраз будучыні, намаляваны вялікім амерыканцам Рэем Брэдберы. Спачатку свядомасць абаранялася ад кашмару святлівых радыеактыўных палёў думкай аб тым, што на маім вяку такое не адбудзецца, а потым інстынкт самазахавання зрабіў сваю работу, і фраза забылася, схаваўшыся ў самы далёкі куток падсвядомасці, адкуль 26 красавіка 1986 года яе выцягнуў Чарнобыль.**

**Пасля Чарнобыля ж спачатку было вельмі страшна, а потым, як гэта бывае, мы да яго прывыклі, і ён стаў своеасаблівай неад'емнай часткай нашага жыцця: пра гэта, хаця ўвесь час і гавораць, але паскорыць распад радыеактыўных элементаў усё роўна ж ніхто не ў сілах.**

**Аднак апошнім часам адбыліся дзве важныя падзеі, якія, хочацца верыць, не пройдуць для нас бясследна. Я маю на ўвазе выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча на экалагічным форуме ў Рыо-дэ-Жанейра і сустрэчу ў Мінску кіраўнікоў прыродаахоўных ведамстваў краін— удзельніц Пагаднення аб узаемадзеянні ў галіне экалогіі і аховы навакольнага асяроддзя.**

**У якім жа стане сёння знаходзіцца наша зямля? Чым мы можам (і ці можам увогуле) ёй памагчы? Што нас чакае? З гэтымі пытаннямі я звярнулася да супрацоўніка Рэспубліканскага навукова-тэхнічнага цэнтра дыстанцыйнай дыягностыкі прыроднага асяроддзя «Экамір» Андрэя ПЕНТУСА.**

## ПАКУЛЬ ПАЛІТЫКІ ЗАНЯТЫ ПАЛІТЫКАЙ

# КАБ ЗАЎТРА НЕ БЫЛО ПОЗНА

— *Пытанняў многа, але перш за ўсё прадстаўце ваш цэнтр і раскажыце больш падрабязна пра яго работу.*

— Наш цэнтр заснаваны Акадэміяй навук рэспублікі і Дзяржкамітэтам па экалогіі. Створаны ў рамках рэспубліканскай праграмы дыстанцыйнай дыягностыкі прыроднага асяроддзя, ён уключае ў сябе ажыццяўленне наземнага экалагічнага і радыяцыйнага маніторынгу, распрацоўку апаратуры для дыягностыкі навакольнага асяроддзя, стварэнне перасоўных экалагічных лабараторый па вывучэнню і кантролю глебы, вады, паветра і іншых экалагічных вымярэнняў. Наша група прымала самы непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы даклада С. Шушкевіча. Нягледзячы на тое, што аб чарнобыльскай трагедыі ўжо нібыта ўсё вядома, з часам высвятляюцца новыя падрабязнасці трагедыі. Што можна сказаць пра Чарнобыль сёння?

На нашых ацэнках, на Беларусь прыпала да 90 працэнтаў усіх чарнобыльскіх выкідаў, і плошча забруджаных земляў — не пятая частка тэрыторыі рэспублікі, як гэта прынята лічыць, а прыкладна трэцяя. А самае непрыемнае: пацярпелі практычна асноўныя плошчы на поўдні рэспублікі, а гэта — Палессе, перадпалеская нізіна, наш самы аграрна развіты раён, гэта асноўная жытніца Беларусі, гарантаваны кавалак хлеба ў любое надвор'е, пры любых умовах. Гэты ўрон несупастаўны ні з чым, няма аналагаў такой катастрофы ні ў адной краіне свету. Меnavіта Палессе і аказалася ў першую чаргу забруджаным. Акрамя таго, там жа размешчаны буйныя хімічныя заводы, такія, як Мазырскі нафтаперапрацоўчы, Светлагорскі хімічны, дадайце сюды яшчэ і меліярацыю. Там і так было напружанае экалагічнае становішча, Чарнобыль давёў яго да мяжы. Ёсць аспекты, аб якіх пакуль яшчэ не гавораць, таму што яны проста не вывучаны. Радыеактыўнае забруджанне страшнае само па сабе, але калі радыенукліды ў глебе злучаюцца з рознымі хімічнымі элементамі, асабліва цяжкімі металамі, атрымліваецца проста страшная сумесь. Многія мікра- і макраэлементы, якія сілкуюць расліны, аказваюцца звязанымі, у расліны больш не паступаюць, і рост іх не толькі замаруджваецца, а проста спыняецца. Могуць пачацца мутацыі, у рэшце рэшт атрымліваецца тое, што амерыканцы называюць bad laud — кінутыя, дрэнныя землі, на якіх ужо нічога не расце.

— *Газеты пісалі, што даклад Станіслава Шушкевіча ў*

(Заканчэнне на 3-й стар.).

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА

**У Рэспубліцы Беларусь пабывала дэлегацыя Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў на чале з намеснікам старшыні Пастаяннага камітэта УСНП Сейфуддзінам. Кітайскі палітык адзначыў, што стасункі паміж нашымі краінамі добрыя і нішто не перашкаджае ім заставацца такімі і ў будучыні.**



**НА ЗДЫМКУ: сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава ШУШКЕВІЧА з намеснікам старшыні Пастаяннага камітэта УСНП.**

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЛОТ

## БЕЛАРУСЬ НА МОРЫ

Ва ўрадзе рэспублікі разгледжаны праекты дакументаў, падрыхтаваных спецыяльнай рабочай групай, аб стварэнні ўласнага марскога гандлёвага флоту Беларусі. Як заявіў кіраўнік групы, першы намеснік міністра транспарту РБ Аляксей Гулецкі, для свайго флоту нам спатрэбіцца 8 суднаў для навалачных грузаў (балераў), 3—для генеральных грузаў, 7 танкераў грузападымальнасцю 20—25 тысяч тон.

Гэтыя судны могуць быць атрыманы Беларуссю пры падзеле ўласнасці былога СССР з саставу гандлёвага і ваеннага марскога флоту, а таксама за кошт утварэння сумесных прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі. Разглядаецца і праект арэнды флоту ў іншых краін Садружнасці, а таксама ў нашых суседзяў—Балтыі.

Апрача перавозкі грузаў, марскі флот Беларусі можа быць выкарыстаны і ў навуковых мэтах. За апошнія два дзесяцігоддзі ў Інстытуце фізікі АН Беларусі сфарміраваўся новы напрамак—прыкладная гідраоптыка. Яна вывучае характарыстыкі святлорассеяння вод мораў і акіянаў. Інстытут мае унікальны комплекс гідрааптычных прыбораў, якія не маюць аналагаў. Накоплена каштоўнейшая методыка апрацоўкі даных для ацэнкі экалагічнага стану вод і іх біяпрадукцыйнасці, дальнасці дзеяння падводнага тэлебачання і па многіх іншых пытаннях. Вынікі гэтых даследаванняў карыстаюцца попытам на навуковым рынку развітых заходніх краін. Пытанне стаіць аб стварэнні ўласнага акіяналагічнага падраздзялення, асновай якога можа стаць шматпрофільнае навукова-даследчае судна. Яго магчыма атрымаць у лік долі Беларусі ад Ваенна-Марскога Флоту былога СССР, дзе маецца каля 30 такіх суднаў.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## ПРАТЭСТ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА

Як мы паведамлялі, на пашыраным пасяджэнні Рады згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» быў утвораны арганізацыйны камітэт па скліканню Усебеларускага кангрэса ў будучым годзе. У сувязі з гэтым у друку з'явілася абвяржэнне Зянона Пазьняка. Вось што заяўляе лідэр БНФ: «6 жніўня ў публікацыі «У імя яднання і адраджэння» «Звязда» паведаміла, што на пашыраным паседжанні Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» прынята рашэнне стварыць «гістарычную падзею» — склікаць Усебеларускі кангрэс. У аргкамітэт прапанаваны афіцыйныя дзяржаўныя асобы спадары С. Шушкевіч, М. Дзямчук, П. Краўчанка, Я. Вайтовіч, В. Гайсёнак, А. Бутэвіч, У. Радкевіч і інш.». Далей напісана: «Ідэя склікання кангрэсу была падтрымана лідэрамі новых дэмакратычных партыяў і рухаў, якія таксама ўвайшлі ў Аргкамітэт: ад БНФ «Адраджэнне» — Зянон Пазьняк...»

Не ведаю, хто тут вінаваты ў гэтай дэзінфармацыі, але вымушаны выказаць пратэст.

Я не прысутнічаў на паседжанні згуртавання «Бацькаўшчына», ніякай згоды і падтрымкі не дэкляраваў і ні з кім пра гэта не размаўляў. БНФ не абмяркоўваў пытання пра «ідэю склікання кангрэсу».

Шкода, зазначае Зянон Пазьняк, што з першага кроку непаразуменне, бо сама думка склікання ў Менску спаткання беларусаў замежжа добрая, але арганізацыйна-дэзінфармацыйныя бесцырымоннасці, дапушчаныя пры гэтым, вельмі нагадваюць прыёмы бальшыні асобаў, пералічаных у Аргкамітэце, асабліва тады, калі яны былі рознымі загадчыкамі аддзелаў гаркама і ЦК КПБ і «спецыялізаваліся» па маім прозвішчы ды Народным Фронце.

УСПЫШКА ІНФЕКЦЫЙ

## ВІНАВАТА ЛЕТА

Эпідэміёлагі Беларусі ўстрывожаны: незвычайна гарачае лета дало новую ўспышку рада інфекцый. З пачатку гэтага года зарэгістравана ўжо каля сямі тысяч выпадкаў вострых кішэчных захворванняў — на 10 працэнтаў больш, чым за 6 месяцаў мінулага. Амаль на 22 працэнты ўзраслі захворванні дызентэрыяй, перш за ўсё ў Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай абласцях і ў Мінску. Зарэгістравана 2 158 хворых сальманелёзам і 4 327 —вірусным гепатытам А.

Але галоўны дзяржаўны санітарны ўрач рэспублікі Валерый Філонаў сцвярджае, што асноўнымі прычынамі інфекцый сталі бесшабашнасць і безадказнасць работнікаў грамадскага харчавання і гандлю. Груба парушаецца тэхналогія вытворчасці страў, асабліва мясных, няправільна выкарыстоўваецца інвентар, тэхналагічнае абсталяванне і тэрмічныя рэжымы апрацоўкі. Плюс да ўсяго—няякасная дэзінфекцыя і санітарная апрацоўка абсталявання, забароненае «суседства» пры захоўванні харчовых прадуктаў, парушэнне тэрмінаў іх рэалізацыі. Падоўгу не расстаюцца са стравамі, якія хутка псуюцца, і на прадпрыемствах грамадскага харчавання, і ў хатніх умовах. І ўжо зусім дрэнна, што персанал харчовых аб'ектаў забывае аб правілах асабістай гігіены.

НА МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ



**На міжнародным кірмашы ў Польшчы дэманстраваліся выробленыя Мазырскай швейнай фабрыкай узоры мужчынскіх сарочак, на закупку якіх калектыў прадпрыемства разлічвае мала: не задавальняюць заходняга спажыўца нашы тканіны. А вось якасць пашыву, бясспрэчна, заслугоўвае ўвагі. І дырэктар фабрыкі Людміла Жукоўская перакanана, што знойдуцца жадаючыя заказаць на іх прадпрыемстве сарочкі, праўда, даставіўшы туды тканіны і фурнітуру. Тым больш, што такі вопыт ужо ёсць. Англійская фірма размясціла ў Мазыры заказ на пашыў блуз і жакетаў. І не памылілася: ні адна з шасці мадэлей не была забракавана. Цяпер ад фірмы паступіў паўторны заказ. Вядуцца перагаворы і з чэшскімі партнёрамі. Усё гэта садзейнічае стабільнасці сітуацыі ў калектыве, дазваляе пазбегнуць скарачэнняў рабочых месцаў.**

**НА ЗДЫМКУ: дырэктар фабрыкі Людміла ЖУКОЎСКАЯ дэманструе сарочкі, выробленыя па заказу англічан.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ За наведванне лесу без дазволу лясніцтва жыхары Баранавіч могуць быць аштрафаваны на 500 рублёў. Такое рашэнне гарадскія ўлады прынялі ў сувязі з надзвычайна сухім надвор'ем і частымі пажарамі.

◆ Беларускае геаграфічнае таварыства зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі. Яно мае на мэце спрыяць развіццю геаграфічных навук, рацыянальнаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў, іх ахове і аднаўленню.

◆ «Беларускі гістарычны часопіс» атрымаў права на існаванне — Міністэрства інфармацыі выдала яго заснавальнікам пасведчанне аб рэгістрацыі. За яго выданне гісторыкі змагаліся аж 15 гадоў. Часопіс будзе выходзіць 5—6 разоў на год.

◆ Сем супрацьпяхотных мін дасталі і абясшкодзілі сапёры з катлавана, што быў выкапаны на дарозе з Зэльвы да царквы. Міны праляжалі тут з часоў вайны, і на іх наткнуліся выпадкова падчас рамонту цеплавых сетак.

◆ Як паведаміў міністр сельскай гаспадаркі Беларусі Ф. Мірачыцкі, у рэспубліцы сёння толькі 1,5 тысячы фермерскіх гаспадарак. Сярэдні памер іх —20 гектараў. Аднак толькі 20 працэнтаў фермераў добра спраўляюцца са сваімі функцыямі.

◆ Марудна, але пасоўваюцца наперад будаўнікі мінскага метрапалітэна. У 1994—1995 гадах будуць адчынены 4 новыя станцыі на «Аўтазаводскай» лініі — дзве ў кірунку праспекта Пушкіна і яшчэ дзве ў кірунку аўтазавода. На наступны год прадоўжыцца будаўніцтва «Маскоўскай» лініі да мікрараёна Уручча.

◆ Такога павышанага радыяцыйнага фону, як гэтым летам, на Гомельшчыне яшчэ не было. Гарачыня, лясныя пажары выклікалі павышаны радыяцыйны фон, як і ў час аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе. У сувязі з гэтым пагоршыўся стан здароўя насельніцтва вобласці.

◆ Пагранічныя войскі Беларусі, па папярэдніх падліках, будуць налічваць не меней 6 тысяч чалавек, а іх утрыманне абыдзецца ў 8 мільёнаў рублёў. Ці не першыя пагранічныя пункты будуць устаноўлены на беларуска-ўкраінскай мяжы.

ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ

## ІТАЛЬЯНЦЫ Ў ЖЛОБІНЕ

Канец ліпеня бягучага года ўвойдзе ў гісторыю Жлобіна. У гэтыя дні жыхары беларускага горада ўрачыста сустракалі высокіх гасцей з Італіі: кіраўніцтва і групу прадпрымальнікаў са Скаленга, што на поўначы гэтай краіны. Галоўная мэта візіту—падпісанне акта пабрацімства паміж двума гарадамі, наладжванне эканамічных сувязей (у першую чаргу, трэба думаць, італьянскіх бізнесменаў цікавіць прадукцыя Беларускага металургічнага завода для сваіх прадпрыемстваў па вытворчасці сельскагаспадарчых машын і дэталяў для аўтамабільнай вытворчасці).

Разам з такой прадстаўнічай дэлегацыяй да нас у госці прыехалі і юныя ўдзельнікі мастацкага калектыву «Ля Віганейзе» (кіраўнік Чалясціна Салуса) горада Скаленга. Менавіта яны і з'яўляюцца галоўнымі віноўнікамі гэтай падзеі. Справа ў тым, што яшчэ летась, калі група самадзейных выканаўцаў жлобінскага падлеткавага цэнтра «Факел» (кіраўнік Л. Чыпкасава) знаходзілася з гастролямі на поўначы Італіі, і адбылося пабрацімства італьянскага і беларускага самадзейных дзіцячых творчых калектываў. Хутка гэтая своеасаблівая дзіцячая дыпламатыя перарасла ў ідэю пабрацімства і саміх гарадоў, сведкамі здзяйснення якой мы сёння і з'яўляемся.

Неабходна сказаць, што дзіцячая ініцыятыва стала ў нейкай ступені нечаканасцю для гарадскіх улад Жлобіна, якія незадоўга да прыезду гасцей кінулі немалыя сілы, каб прывесці ў больш-менш прыстойны выгляд чыгуначны вакзал горада, прывакзальную плошчу, прылягаючыя да яе вуліцы. Пашанцавала і помніку Леніну, які пачаў ужо рассыпацца, і, напэўна б, яго так бы з цягам часу і знеслі, ды дзякуй «капіталістам»—падаспелі своечасова. І цяпер Уладзімір Ільіч свежымі фарбамі пасярод жывых кветак ззяе побач з вакзалам. Па прычыне візіту шаноўных гасцей, нарэшце, быў здадзены ў эксплуатацыю і Палац металургаў, адкрыццё якога чакалі не адзін год. Цяпер гэтая пабудова велічна ўзвышаецца сярод новых карпусоў бальнічнага комплексу і шматпавярховых дамоў 16 мікрараёна.

А сустракаць гасцей на чыгуначны вакзал прыйшлі многія гараджане і жыхары раёна на чале са старшынямі гарсавета і райсавета У. Ерафеевым і С. Котавым. «Я ўпэўнены, што дні, якія мы правядзём у Жлобіне,—заявіў на пероне кіраўнік італьянскай дэлегацыі мэр горада Скаленга Уга Капэла,—будуць мець вялікае значэнне не толькі для грамадзян нашых гарадоў, а і для нашых дзяржаў, якія жадаюць жыць і працаваць дзеля светлай і мірнай будучыні».

У гэты ж дзень У. Ерафееў і Уга Капэла падпісалі акт пабрацімства паміж гарадамі Жлобін і Скаленга. У Палацы металургаў адбыўся вечар дружбы, святочныя мерапрыемствы працягваліся і назаўтра.

Не гублялі дарэмна час у гэтыя дні і прадстаўнікі «дзелавой» часткі італьянскай дэлегацыі. Яны наведалі металургічны завод, вытворчае аб'яднанне штучнага футра, шэраг моцных гаспадарак раёна. Аб канчатковых выніках гэтых дзелавых сустрэч пакуль гаварыць яшчэ рана. Яны стануць вядомыя ў час візіту жлобінскай дэлегацыі ў адказ. Падрыхтоўка да яго пачалася ўжо, і склад яе будзе не менш прадстаўнічы, чым італьянскай дэлегацыі.

Мікалай ШУКАНАЎ.

# КАБ ЗАЎТРА НЕ БЫЛО ПОЗНА



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*Рыо-дэ-Жанейра ашаламіў слухачоў, яны не ведалі, што ў Беларусі ўсё так дрэнна. Але, мяркуючы па вашых словах, мы наогул стаім на краі бездані.*

— І гэта так. За рубяжом ёсць так званыя экалагічныя індэксы, якія ўскосна характарызуюць умовы асяроддзя пражывання чалавека. Гэта чысціня паветра, глебы, вады. Тычыцца гэта і здароўя. Дык вось, у нас частата захворванняў на розныя хваробы, не толькі анкалагічныя, але ў першую чаргу — мутацыі, звязаных з генетыкай, вырасла ў дзесяць разоў. Па нашых звестках, каля 20 працэнтаў беларускіх дзяцей ва ўзросце да 10 гадоў на дыспансерным уліку. Змяненні на генетычным узроўні адбываюцца вельмі марудна і выяўляюцца не адразу. Патрэбны нейкі штуршок, каб у арганізме, які доўга супраціўляўся, пачаліся незваротныя змены. Ды яны ўжо ёсць, гэтыя змяненні, толькі недаацэньваюцца, бо практычна здаровыя дзеці скалечаны псіхалагічна, бо ўсё жыццё знаходзячыся ў забруджаных раёнах, яны не бачылі, не ведаюць іншага жыцця. І аналагаў такой сітуацыі зноў жа не было, ніхто не ведае, як гадаваць дзяцей у гэтым выпадку.

І яшчэ адзін момант. Справа ў тым, што многія людзі на Захадзе не ўяўляюць сабе рэальнай карціны вынікаў Чарнобыля таму, што атаясамліваюць Беларусь з былым СССР. І калі страшныя лічбы радыяцыйнага забруджвання мясцовасці ці выпаўшага попелу тычацца 1/6 часткі сушы (былога СССР) — гэта адно. Але калі тыя ж лічбы тычацца маленькай Беларусі, яны набываюць зусім іншую афарбоўку.

*— Мусіць, у вас ёсць нейкія прагнозы адносна нашай будучыні?*

— Мы зрабілі прагнозныя карты па міграцыі радыенуклідаў да 2000, 2010, 2020 гадоў. З іх дапамогай можна будзе прасачыць накапленне і міграцыю радыенуклідаў на канкрэтных тэрыторыях з улікам ветравой і воднай эрозіі, рэльефа мясцовасці. Ужо можна сказаць, што ёсць тэндэнцыя да распаўсюджвання плямаў, і калі першыя некалькі гадоў мы назіралі найбольшую шчыльнасць забруджвання цэзіем у верхнім ворным гарызонце, то праз дзесяткі гадоў забруджванне пранікне да паўметра ўглыб і больш.

*— І што нас чакае?*

— Змяншэння забруджанасці тэрыторый у бліжэйшыя 20—40 гадоў чакаць не даводзіцца. Будзе нязначнае ачышчэнне, але за кошт таго, што частка нуклідаў будзе змывацца дажджамі, а частка пранікаць з водамі ў глебу. У той жа час у ярах і нізінах за кошт сцёку вод будзе адбывацца назапашванне радыенуклідаў. Многае залежыць ад агратэхнікі выкарыстання гэтых тэрыторый, калі там, вядома, не будзе моцнага перанасычэння мінеральнымі ўгнаеннямі. Важны і рацыянальны падбор культур, прымяненне арганічных угнаенняў — за гэты кошт можа адбывацца інтэнсіўнае ачышчэнне. Але, улічваючы нашу неадукаванасць у агратэхніцы, вельмі нізкі ўзровень земляробчай культуры, спадзявацца на гэта цяжка.

*— Але ж павінна быць нейкае выйсце?*

— У сувязі з тым, што ў Беларусі цяпер вельмі востра не хапае алею і цукру, вырашаецца пытанне аб тым, каб некалькі гадоў рэспубліка поўнасцю забяспечыла сябе і тым, і другім. Зрабіць гэта можна за кошт пасадак крыжакветных, напрыклад, рапсу і цукровых буракоў. Стаіць пытанне аб уцягненні ў абарот забруджаных зямель. Вынікі доследаў, праведзеных у інстытуце земляробства, па вырошчванню рапсу паказалі, што гэтая культура, нават будучы вырашчанай на забруджаных землях, за кошт тэхналогіі перапрацоўкі дае практычна чысты прадукт. Гэта абнадзейвае.

Апошнім часам нашы работы выходзяць на міжнародны ўзровень. У нас склалася вельмі цікавая сітуацыя: рэспубліка знаходзіцца практычна ў цэнтры Еўропы, і дзесяцігоддзямі «жалезная заслона», што існавала на заходняй мяжы, дапамагла захавацца своеасабліваму унікальнаму запаведніку з практычна некранутай прыродай, у жыццё якой даволі доўга ніхто не ўмешваўся, дзе ідуць натуральныя экалагічныя працэсы. Такі цуд — і ў самым цэнтры Еўропы. Супастаўленне розных аптычных, радыяцыйных, геафізічных характарыстык, атрыманых з дапамогай дыстанцыйных метадаў даследавання асяроддзя, як з аднаго боку мяжы, так і з другога можа даць цікавыя вынікі.

Існуе (ці існавала) сумесная савецка-амерыканская праграма па вывучэнню глабальных змяненняў прыроднага асяроддзя ў планетарным маштабе. Мы таксама ўдзельнічалі ў гэтай праграме.

Вельмі востра стаіць пытанне аб стварэнні адзінай інфармацыйнай сістэмы, дзе б збіралася, апрацоўвалася і захоўвалася ўся інфармацыя па розных прыродных кампанентах і тэрыторыях як у нас, так і за рубяжом. Усе звесткі па забруджванню зямель, паветра і вады, як і аб распаўсюджванні шкодных рэчываў, павінны паступаць у гэтую сістэму няспынна. Нядаўна была праведзена вялікая работа нашым цэнтрам «Экамір» і польскімі вучонымі па вывучэнню забруджвання водаў Буга. Палякі гаварылі, што гэта мы скідваем у ваду адходы сваіх вытворчасцей, мы сцвярджалі, што яны. Пытанне было не толькі эканамічным, але і палітычным...

*— І што ж высветлілася?*

— Забруджвалі і мы, і палякі, ды яшчэ і немцы пастараліся. Вось для гэтага і патрэбна адзіная еўрапейская сістэма экалагічнага сачэння. Калі мы гаворым аб агульным еўрапейскім доме, то ў ім павінна быць і агульная сістэма кантролю за забруджваннем прыроднага асяроддзя, агульная методыка, агульная апаратура, якая давала б супастаўныя даныя.

*— Ці непакоіць Захад стан нашай экалогіі?*

— Вядома, мы ж знаходзімся вельмі блізка адно каля аднаго. Таможні можна ўстанавіць толькі для людзей, а трансгранічны перанос забруджваючых рэчываў, кіслотных ападкаў адбываецца практычна кожны дзень. Не варта забываць і пра тое, што стандарты на выкіды розных элементаў і таксінаў за мяжой вельмі жорсткія, значна больш жорсткія, чым у нас. Ёсць і іншыя прычыны для хвалявання: рэспубліка забяспечвала каля 20 працэнтаў былой агульнасаюзнай вытворчасці мінеральных угнаенняў, у тым ліку каля 50 працэнтаў калійных, 12 працэнтаў выпускаемых у краіне сінтэтычных смол і пластмас, а таксама ў Беларусі ёсць такія небяспечныя ў экалагічных адносінах вытворчасці, як лакафарбавая, капралактамавая, заводы па выпуску кармавога вітаміну В-2, кармавых дражджэй, кармавога мікробнага бялку. Дадайце да гэтага ўсяго яшчэ і Чарнобыль, і самі адкажыце на пытанне, ці можа ўсё гэта не хваляваць нашых суседзяў.

Вядома, у самы бліжэйшы час трэба прымаць кардынальныя заканадаўчыя меры па ахове прыроды. Хаця законы ёсць і цяпер, але яны не выконваюцца. Патрэбны жорсткія штрафныя санкцыі, аж да закрыцця прадпрыемства, якое парушыла закон, а гэта ў нашых умовах бясконцага дэфіцыту амаль немагчыма.

*— Наколькі я зразумела, прадпрыемствы пачнуць клапаціцца аб чысціні навакольнага асяроддзя толькі тады, калі ім гэта будзе выгадна.*

— Так, вы маеце рацыю. «Беларускаліем» у Салігорску штогод адчужаецца да 700 гектараў выдатнай высокабальнай зямлі, так званай слуцкай раллі, самай урадлівай зямлі, што, дарэчы, нікім не ўлічваецца. Дык вось «Беларускалію» больш выгадна плаціць штрафы, чым берагчы гэтыя землі.

*— Усе жывуць па прынцыпу: пасля нас — хоць патоп?*

— Так, усё ўпіраецца ў нізкае экалагічнае выхаванне. Патрэбны хаця б курсы нейкія для таго, каб растлумачыць людзям, што той, хто беражэ прыроду, у рэшце рэшт аказваецца ў выйгрышы. Амерыканцы падлічылі, што знікненне любога віду раслін, жывёл, насякомых з агульнага сусветнага генафонду складае ўрон ад аднаго мільёна да аднаго мільярда долараў, і гэта толькі само па сабе знікненне, а не яго вынікі. У нашай краіне ніхто нават падлічваць не спрабаваў, колькі раслін ці насякомых знікла ў выніку дзейнасці чалавека. А кожны ж від адыгрывае сваю ролю, і з яго знікненнем ствараецца экалагічная ніша, якая можа запоўніцца нечым іншым, магчыма, зусім непажаданым. Хто-небудзь падлічыў страты ад кампаніі па хімізацыі сельскай гаспадаркі, якая шырокамаштабна праводзілася ў 70-я гады? У выніку ў самых урадлівых глебах, баланс якіх складваўся тысячагоддзямі, прымяненнем гербіцыдаў, пестыцыдаў знішчаны ўсе глебавыя мікраарганізмы, якія забяспечвалі ўрадлівасць, і цяпер гэта зямля стала, як наркаман: калі мы яе не ўколем чарговай порцыяй хіміі, яна ўжо нічога не родзіць. Паверце, гэта катастрофа, па маштабах не меншая, чым Чарнобыль.

*— Пасля таго, што вы расказалі, у мяне засталося адчуванне калі не глабальнага бедства, то ва ўсякім выпадку экалагічнай катастрофы. Ці так гэта?*

— На жаль, так. Сітуацыя вельмі і вельмі сур'ёзная, настолькі сур'ёзная і страшная, што мы проста да канца яе яшчэ не асэнсавалі. Вядома ж, прырода моцная сама па сабе, ёй уласціва самааднаўляцца, яна супраціўляецца чалавеку, да нечага спрабуе прыстасавацца, але ўсё гэта зноў жа да пэўнай ступені. Калі наша ўздзеянне становіцца занадта моцным, напрыклад, калі 30 працэнтаў нейкай тэрыторыі асвоена чалавекам, гэты ландшафт ужо знаходзіцца на мяжы самаўзнаўлення. Калі ж лічба перавышае 30 працэнтаў (а ў нас ёсць і 50, і 70 працэнтаў асваення зямель), гэта ўжо катастрофа. Такіх зямель у нас больш чым дастаткова.

*— Ці даяце вы куды-небудзь інфармацыю аб выніках вашых даследаванняў і як на яе рэагуюць?*

— Работу па радыяцыйнаму вывучэнню тэрыторый мы рабілі па заказу грамадзянскай абароны Мінска і Мінскай вобласці, яе мэтай было стварыць тэматычныя карты радыяцыйнага забруджвання маштабаў 1:10 000, 1:50 000, 1:100 000, а для тэрыторыі Мінскай вобласці 1:200 000, што унікальна, таму што такіх падрабязных карт радыяцыйнага забруджвання ў рэспубліцы не рабілася. Карты атрымаліся унікальныя, але шырокага распаўсюджання не знайшлі. Не было фарбы і паперы для таго, каб іх надрукаваць. Мы ўжо год не можам выдаць карты па радыеактыўнаму заражэнню Мінска і Мінскай вобласці, хаця аэрагамаздымка была праведзена паўтара года назад. Вось вам і актуальнасць, і частата абнаўлення карт... Мы можам і павінны праводзіць здымку штогод для таго, каб весці радыяцыйны кантроль за ўлікам і распаўсюджваннем усіх радыяцыйных плямаў, якія знаходзяцца ў такім густанаселеным і высокаразвітым раёне, як Мінскі. Здымка павінна праводзіцца штогод, а карты выдавацца аператыўна. Але... усё, як заўсёды.

Мы перадавалі нашы карты ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, яны там праходзілі атэстацыю, іх глядзела камісія па экалогіі, яны там спадабаліся, былі адобраны і разгледжаны, і... усё. Што ж тычыцца прагнозных карт, якія паказваюць, якой будзе зямля праз 20, 30, 40 гадоў, то тут самымі зацікаўленымі людзьмі аказаліся кіраўнікі гаспадарак. Яны працуюць на гэтых землях, вырошчваюць там хлеб, бульбу і, зыходзячы з нашых даных, могуць карэкціраваць сваю дзейнасць. Калі ж гаварыць аб рэакцыі на гэтыя карты на больш высокім узроўні, яе зноў, на жаль, няма. Палітыкі бачаць, што работа робіцца, даследаванні праводзяцца, але аб рэальнай дапамозе сваёй зямлі, аб сапраўднай увазе да праблем экалогіі гаварыць не даводзіцца.

*— Ці атрымліваеце вы задавальненне ад сваёй работы?*

— Вядома. Работа цікавая, займаючыся ёю, атрымліваеш важныя (часта толькі з навуковага пункту гледжання) вынікі. З другога боку, вядома, цяжка бачыць, што ўсё гэта нікім не запатрабавана, нікому не патрэбна. Часткова атрымліваецца: навука для навукі. І ўсё-такі я веру, што вынікі нашай работы спатрэбяцца, для гэтага мы ёю і займаемся. Уласна, мы сёння працуем для таго, каб заўтра не было позна...

**Да апошняга часу гаварыць сур'ёзна аб ахове прыроды нібы саромеліся, і тэма гэтая, нягледзячы на Чарнобыль, як была, так і застаецца другараднай. Ды і сапраўды: што такое знікненне яшчэ аднаго ручая ці высыханне чарговага гаю ў параўнанні з праблемамі палітыкаў і палітыкі? Але ці не атрымаецца так, што калі першаступенныя праблемы будуць вырашаны, раздзяляць і ўладарыць не будзе дзе?**

**Калі грымнула чарнобыльская бяда, усе дружна загаварылі пра канец свету, звяраючы свае апасенні, страхі і рэальнасць з біблейскім прароцтвам аб Зорцы палын. Але гром грымнуў і заціх, а канец свету нібыта чарговы раз перанесены на потым. Ды і праўда — ангелы не пратрубілі, зоркі нябесныя на зямлю не палі, памітусіліся і жывём, як жылі. Можа, крыху горш. А мне ўсё часцей здаецца, што канец свету ўжо прыйшоў. Ціха і непрыкметна, без землятрусаў і гор, што зрушылі з месца. Хіба палі, што памерлі і не адноўлены, не сведчанне таму? Хіба зямля, якая ва ўсе вякі карміла сваіх дзяцей, а сёння забівае іх — не прыкмета ажыццёўленага апакаліпсіса? Марудна і непрыкметна знікаюць рэкі, азёры, моры, лясы, расліны, насякомыя і жывёлы... Мы не заўважаем гэтага. Калі знікне чалавек, заўважыць гэта ўжо не будзе каму.**

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ШТО ПРЫМУШАЕ ЯЕ СЭРЦА БІЦЦА МАЦНЕЙ





У сёлетнім, не вельмі густым патоку замежных турыстаў часамі сустракаюцца нашы суайчыннікі з Паўднёвай Амерыкі. Канешне, не ўсе даюць аб сабе знаць у рэдакцыю, але большасць знаходзіць нас. З адной такой групай я нядаўна пабачыўся ў Мінску. Землякі-турысты прыехалі з аргенцінскай правінцыі Місіонес, што знаходзіцца на Поўначы краіны і апендыксам уклíньваецца паміж Бразіліяй і Парагваем. Дакладней — з горада Аверà.

Група невялічкая і змешаная. Што значыць «змешаная»? А ў такім сэнсе, што, напрыклад, Георгій Акуловіч, які паходзіць з Гродзенскай вобласці, падарожнічаў па СНД разам са сваёй жонкай, народжанай у аргенцінскай сям'і. Сам жа гродзенскі аргенцінец — буйны вытворца чаю, аб якім можа гаварыць суткамі, ствараючы на вашых вачах цэлую навуку «чаялогію». І не без падстаў: адна ў тым, што жыхароў Аргенціны, асабліва з паўночнай гарачай яе часткі, нельга ўявіць сабе без усёй той атрыбутыкі, дзейства, звязаных з піццём йервы-матэ, парагвайскага чаю. Другая грунтуецца на цудоўных якасцях йервы: седатыўных, танізуючых, здольнасці абсарбіраваць — што для беларусаў, атручаных радыяцыяй, мае не апошняе значэнне. Да таго ж спадар Акуловіч згодзен пастаўляць не толькі парагвайскі, але і чай іншых гатункаў. Каго б на Беларусі зацікавіла такое супрацоўніцтва?

Пакуль вы разважаеце над гэтым пытаннем, я прадстаўлю другога ўдзельніка турыстычнай групы — сеньёру Зянону Канстанцінаўну Саўчук. Аб ёй увогуле і пойдзе гаворка.

Пазнаёміўся я з гэтай жанчынай яшчэ ў 1986 годзе ў час яе першага побыту на Беларусі. І адразу яна выклікала павагу да сябе: папрасіла адшукаць сваякоў. Нешта падобнае я рэдка чуў ад замежных суайчыннікаў і надта часта чую ад суграмадзян... (Просьба здзейснена таварыствам «Радзіма»). Зянона Саўчук была спачатку сярод заснавальнікаў Беларускай абшчыны горада Авера, потым стала старшынёй гэтай сябрыны. Прызначалася ганаровым консулам былога СССР у правінцыі Місіонес. Таксама на грамадскіх пачатках яна, шчыры і глыбокі вернік, працуе на ніве папулярызацыі хрысціянства. А ў самой ёсць ужо ўнукі, перанесла смерць мужа, мае ўласны бізнес, трэба дзе падстаўляць локаць, а дзе і весці па жыцці дзяцей. Сваёй работы — век не пераробіш. Нашто той дадатковы клопат? «Адзін успамін пра Беларусь, радзіму маіх бацькоў, прымушае маё сэрца часцей біцца, а кроў у жылах — цячы хутчэй», — пісала яна ў лісце, адрасаваным у «Голас Радзімы».

Кідалася ў вочы і іншая акалічнасць: з якім зайздросным веданнем тэмы, зайздросным патрыятызмам і гонарам гэтыя людзі, у прыватнасці Зянона Канстанцінаўна, расказваюць пра свой горад. А паслухаць ёсць што...

...Авера — перакладаецца з мовы гуарані як «тое, што блішчыць». Нехта з паэтаў даў яму назоў «лясная сталіца», а з сацыёлагаў — «расавы сланечнік». У гарадку-«сланечніку» жыве 40 тысяч насельнікаў 32-х нацыянальнасцей!

У 1928 годзе, калі імігранты з усіх канцоў свету засноўвалі Авера, у горад прыехаў і Кастусь Арцюх, бацька Зяноны. Селянін з-пад Баранавіч быў далёка не першым каланістам-славянінам. За 30 гадоў перад ім сюды, у даліну, што выбрала сабе месца паміж вадаспадамі ў непраходных джунглях, дзе асталяваліся нешматлікія індзейскія плямёны гуарані, перабраліся чатырнаццаць украінскіх і польскіх сем'яў. (Ёсць няпэўныя звесткі, што ў ліку адважных перасяленцаў-піянераў знаходзіліся і нашы землякі). А беларускія і рускія пасяленцы пойдуць некалькімі хвалямі, пачынаючы з 1900 года, пракладваючы шлях шведам, аўстрыйцам, французам, нарвежцам і г. д. Праўда, калі была напісана гісторыя Авера, на яе старонках не спамянулі сапраўдных першапраходцаў — славян... Не жадаючы мірыцца з гэтым і каб устанавіць гістарычную справядлівасць, ініцыіравала сеньёра Саўчук працу па збору архіўных звестак. Плануе напісаць кнігу.

— Такое супольнае жыццё выклікалася патрэбай выжыць у надзвычай складаных, «дзікіх» умовах. Бог ведае, колькі бедстваў перанеслі эмігранты... А сёння кожная ячэйка «расавага сланечніка» імкнецца захаваць мову, культуру, традыцыі свайго этнасу, маючы ўсё неабходнае дзеля гэтага ў нацыянальных асяродках. Напрыклад, украінскі і нямецкі налічваюць па 10 тысяч членаў. У нашай абшчыне 200 сяброў. А ўсяго ў горадзе пражываюць каля 8 тысяч выхадцаў з Беларусі і Расіі. Мы вывучаем родную мову, ладзім выставы, даём канцэрты мастацкай самадзейнасці. У гарадскім Парку нацый кожная абшчына мае права ўзвесці невялікі культурны цэнтр, каб распаведаць іншым пра нацыянальныя здабыткі сваёй далёкай радзімы. Мы ж перавезлі ў парк хату Івана Мельніка, стылізуем яе пад даўніну, плануючы адкрыць там музей.

...Акрамя этнічнага Авера — як і правінцыя, і ўся Аргенціна — з'яўляецца і «палітычным» Вавілонам. Бо так склалася, што абшчыны адрозніваюцца і супрацьлеглымі палітычнымі, і нават рэлігійнымі поглядамі, што ніяк не перашкаджае іх мірнаму існаванню пад блакітна-белым аргенцінскім сцягам. Між тым (і гэта датычыцца славянскай праслойкі насельнікаў), падзеі і катаклізмы ў краінах Усходняй Еўропы здаўна маюць такую заканамерную асаблівасць—пакідаць на глебе дыяспары свой мікраадбітак.

—Зянона Канстанцінаўна, Савецкага Саюза больш не існуе... Ідзе станаўленне і развіццё суверэнных рэспублік, якія маюць уласныя нацыянальныя інтарэсы. Як будзе складвацца далейшы лёс Федэрацыі савецкіх грамадзян Аргечціны і вашай беларуска-руска-ўкраінскай абшчыны? Ці не дойдзе справа і ў вас да разводу?

— Мы не лічым сябе прыналежнымі да федэрацыі, — адказвае госця. — Не з'яўляемся клубамі, як арганізацыі суайчыннікаў у Буэнас-Айрэсе. У нас інакшы статус, мы больш падлягаем пад мясцовы муніцыпалітэт і мэрыю Безумоўна, подых перабудовы далятае і да нас. Аднак я не думаю, што можа здарыцца раз'яднанне абшчыны. Мы грамадзяне адной дзяржавы, у нас аднолькавыя мэты. Гаворачы аб подыху, я маю на ўвазе і адваротны бок перабудовы. Як старшыня абшчыны, я атрымліваю многа пісьмаў ад грамадзян СНД, асабліва пасля прапановы Прэзідэнта Аргенціны Карласа Менема прыняць эмігрантаў з былога Савецкага Саюза. Людзі просяць паспрыяць іхняму пераезду і пасяленню ў правінцыю Місіонес. Я не маю фізічнай магчымасці даць усім адказ пісьмова, таму скарыстаю вашу газету: **«Паважаныя суайчыннікі! Мы былі б вельмі рады дапамагчы вам. Але ж падумайце... Нашы дзяды, хто прыехаў у Аргенціну ў пачатку XX стагоддзя, атрымалі неабжытую зямлю амаль што бясплатна. Сёння такой мажлівасці няма. Зямля каштуе грошай. Да таго ж у краіне 15 працэнтаў беспрацоўных, столькі ж перабіваюцца выпадковым заробкам, маючы даход ніжэй пражытачнага мінімуму — 300 долараў у месяц. А жыццё ў нас дарагое. Наняць аднапакаёвую кватэру — 200 долараў, расходы на харчаванне для чатырох чалавек — 250—300 долараў, на штодзённыя патрэбы сям'я траціць 40—50 долараў.**

**Увесь свет ведае аб працавітасці беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Аднак разлічваць адно на ўласныя сілы, каб дасягнуць дабрабыту ў нашай дзяржаве, дужа цяжка.**

**Мы не страцілі звычаяў гасціннасці нашых прашчураў. Будзем рады жыць і працаваць разам з вамі. Ды мы не валодаем магчымасцямі аказаць вам матэрыяльную дапамогу. Наша абшчына — грамадская арганізацыя, якую падтрымліваюць узносы яе сяброў. Галоўная яе задача — захоўваць і падтрымліваць тысячагадовую культуру беларускага, рускага і ўкраінскага народаў.**

**Што да прапановы Прэзідэнта Аргенціны, то, апрача іншага, у ёй падкрэсліваецца, што пераезд эмігрантаў мусіць быць фінансаваны Еўрапейскім супольніцтвам ці якой-небудзь іншай міжнароднай арганізацыяй у кошт гуманітарнай дапамогі былому СССР. Пры гэтым асігнаваная сума павінна быць дастатковай, каб купіць зямлю, дом і завесці гаспадарку.**

**Дзякуй вам за лісты. Дай Божа, шчасця вам і вашым сем'ям.**

...Зянону Саўчук прыняло і таварыства «Радзіма». Ёй былі ўручаны беларускія нацыянальныя касцюмы, патрэбу ў якіх абшчына мае немалую, як і ў дзяржаўнай сімволіцы, экспанатах для музея, наладжванні абменаў школьнікамі і г. д. Песціць сеньёра Саўчык і даўнюю мару — устанавіць перад музеем скульптурны партрэт Янкі Купалы, які стаў бы першым сімвалам беларускасці ва ўсёй Лацінскай Амерыцы (!). Таварыства зрабіла пэўныя крокі ў гэтым накірунку. Але ўзніклі цяжкасці з транспарціроўкай. Не хацелася б, каб яны зрабіліся непераадольнай перашкодай у ажыццяўленні гэтай высакароднай задумы.

— Хай у вашым новым доме заўжды будзе многа сяброў і гасцей, — пажадала нам усім на развітанне Зянона Саўчук з далёкага аргенцінскага гарадка Авера.

...А мы вяртаем чытачоў да пачатку артыкула: ці выспела ваша ідэя наконт чаю? Як надумаецеся — званіце ў рэдакцыю.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: імігранты з розных краін свету, сярод якіх і беларусы, засноўваюць у джунглях горад Авера; будучы дом-музей на шляху да Парку нацый.**

## *НЕ ВЫРАСЦЕ ТРАВА ЗАБЫЦЦЯ*



**85 тысяч савецкіх воінаў і мірных грамадзян ляжаць на могілках Штукенброка. У гады другой сусветнай вайны ў наваколлях гэтага нямецкага гарадка знаходзіўся рабочы лагер, у якім ваеннапалонныя і грамадзяне, насільна вывезеныя не толькі з нашай краіны, але і іншых дзяржаў Заходняй Еўропы, вымушаны былі працаваць на фашысцкую Германію.**

**— Людзі паміралі ад знясілення і хвароб, — успамінае былы вязень лагера, сталяр з Бельгіі Альберт Радэнбах, які наведаў могілкі.**

**Паважна ставяцца жыхары Штукенброка да тых, хто ляжыць у іх зямлі. Пра могілкі нагадвае кідкі паказальнік на шашы. Магілы цудоўна дагледжаны, газоны пастрыжаны, нідзе няма смецця. Захаваліся і надпісы даўніх гадоў: «Сталін з намі», «Радзіма — Сталін», а побач кранальнае — «Тут пахавана маё шчасце». Міжволі пачынаеш параўноўваць: а як у нас! І становіцца крыўдна за суайчыннікаў, якія псуюць, паганяць помнікі сваіх продкаў.**

**НА ЗДЫМКУ: на могілках у Штукенброку.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

Ул. СЫРАКОМЛЯ

# МІНСК

## МІНСК—ВАЯВОДСТВА. РОСТ І НЯШЧАСЦІ ГОРАДА



Гэты наплыў багатых паноў і шляхты з ваяводстваў і паветаў плённа прычыніўся да абагачэння горада, які ад старых сваіх межаў, г. зн. ад Траецкай гары і цяперашняга Нізкага рынку, пачаў пашырацца на ўсход, да месца свае сённяшняй сядзібы, мяняючы драўляныя забудовы на цагляныя. Гвагнін называе Мінск драўляным, вялікім, даволі ўмацаваным местам, што амываецца ракою, згадвае млыны і драўляны замак, які як можна здагадацца, быў Верхнім замкам. Цяпер ён ляжыць у руінах.

З асаблівасцей гісторыі гэтай эпохі нічога не ведаем, акрамя гісторыі рускага манастыра базыльянаў Божага Узнясення, заснаванага, як ужо было сказана, жонкаю Аляксандра Ягелончыка Ганнаю. Беднаю была, відаць, яго першапачатковая аздоба, калі бачым, што ў сярэдзіне XVI стагоддзя, пасля смерці архімандрыта Пафнуцыя, манахаў ужо ў ім не было, а Зыгмунт-Аўгуст, шануючы годнасць манастыра, аддаў яго ў арэнду свайму двараніну Яну Бацу. Але новы арандатар сам там не жыў, бязладна нішчыў будынкі і памесце, а таксама так доўга не трымаў святароў, што ў царкве ўрэшце перапынілася служба —«пришла в замолчание». Тагачасны мінскі стараста Габрыэль Гарнастай у 1576 годзе перадаў гэтую арэнду свайму кліенту Стафану Дастаеўскаму, але і гэты апошні, карыстаючыся толькі прыбыткамі ад кляштару, рэшту сваіх абавязкаў занядбаў.

Праз дзесяць гадоў запусцення, у 1579 годзе, кароль Стэфан Баторы прызначыў мінскім архімандрытам вядомага пасля ў гісторыі уніі Міхала Рагозу. Гістарычны дзеяч, знакаміты кіеўскі мітрапаліт, галава Берасцейскага з'езду, асыпаны ласкаю каралёў і папаў, Рагоза распачаў тут у 1579 годзе сваю дзейнасць як сціплы архімандрыт занядбанага кляштару. Царква там асела і згніла і ледзь трымалася ўжо на драўляных падрубах. Адзінаццаць бляклых, з абсыпанаю фарбаю абразоў складалі ўсю яе аздобу, а некалькі кніг ды агаркі свечак у ліхтарах — увесь царкоўны скарб. Той, хто ў хуткім часе ўзначаліў мітрапалітальную сталіцу ўсяе Русі, распачаў сваю дзейнасць у Мінску як настаяцель так званага кляштару, а дакладней — старой каморкі, акружанай гаспадарчымі будынкамі і садамі, агароджа якога была ўжо даўно спалена. У такім стане быў тады Мінскі манастыр грэчаскага абраду. Не розніўся ад яго і парафіяльны каталіцкі касцёл, які налічваў ужо 200 гадоў свае гісторыі. Друцкія і горскія князі, а таксама іншая тутэйшая шляхта ўзнялі яго пахілыя сцены і падмацавалі легатамі сціплыя прыходскія даходы. Гэты сумны стан абедзвюх святынь можна вытлумачыць толькі развіццём Рэформы, што распачалася па ўсёй Літве. Вядомы гісторык Ян Лукашэвіч, не апісваючы асаблівасцей пратэстанцкай царквы ў Мінску, сцвярджае толькі, што існавала яна ў XVI стагоддзі.

Зразумела, што красавацца яна павінна была ў сталіцы ваяводства, калі ва ўсіх навакольных гарадах і мястэчках на месцах цэркваў і касцёлаў паўставалі кальвініцкія саборы, што ўзводзіліся дужымі рукамі суседніх літоўскіх магнатаў. Вуліца ад вякоў завецца Саборнаю, хоць і не выводзіць да цяперашняй царквы кальвіністаў, але сведчыць, што старажытная пратэстанцкая святыня павінна была ўзвышацца на самым відным месцы ў горадзе, можа, якраз там, дзе стаіць цяпер касцёл і кляштар бенедыкцінак, недалёка ад плошчы, што завецца сёння Высокім рынкам і харαством значна перавышае суседні каталіцкі касцёл. Паўтараем, што ўбогі стан каталіцкай і грэчаскай святыняў можна тлумачыць толькі супраціўстаяннем іншага веравызнання, але зусім не беднасцю горада.

Пра тое, што горад у гэты час дасягнуў пэўнай заможнасці, сведчыць гарадская пастанова, дзе падатак на сто коп грошаў названы малым і несур'ёзным для багатай часткі насельніцтва. Што да падаткаў прыкладна ў 300—400 коп грошаў, яго ўскладалі на бяднейшых жыхароў. Якое, аднак, хрысціянскае спачуванне бліжняму!

І вось жа просты народны розум часам вышэйшы за ўсялякія мудрагелістыя тэорыі публіцыстаў! Калі ў першыя гады панавання Жыгімонта III шляхта разахвоцілася шумнаю выбарнасцю чыноўнікаў — ад судовага пісарчука да караля, калі ў краіне іншы раз праз цэлы год цягнуліся бурныя выбары соймавых, трыбунальскіх і казённых дэпутатаў, — простыя мінскія мяшчане 8 лютага 1590 года, сабраўшыся на ратушы, пачалі прыкідваць сваім розумам, што восем змен бургамістраў за год вядуць краіну да неспакою, злыбяды і цяжкасцей і што, нарэшце, выбраны на малы тэрмін, бургамістр не рупіцца пра гарадскую маёмасць. Каб ліквідаваць гэтыя недахопы, пастанавілі не толькі абраць бургамістра на год, даючы яму ў памагатыя двух лаўнікаў, але нават прызначыць адразу яшчэ двух бургамістраў і чатырох лаўнікаў, якія павінны былі працаваць два наступныя гады. Словам, замест васьмі выбараў на год меліся праводзіцца толькі адны — у тры гады. Дакумент такога зместу падалі на зацвярджэнне пану Івану Быкоўскаму, войту Мінска. Адрачэнне ў імя парадку і ўсеагульнага дабра ад частых выбарчых выгод, напраўду, гераізм, на які адукаваная сучасная шляхта, якая гэтулькі гаворыць аб сваім патрыятызме, ніколі не змагла б рашыцца. Закон гэты мог зрабіць гонар не аднаму прадстаўніку вышэйшага сану, але праклюнуўся, аднак, у простых галовах гарбароў і ткачоў, шаноўных паслядоўнікаў мінскай магдэбургіі. Устаноўлены ў 1581 годзе Літоўскі трыбунал, чыё паўнамоцтва вызначалася пачаргова ў Вільні, Навагрудку і Мінску, прычыніўся да росту горада, дзякуючы з'ездам багатых людзей: то судовых чыноўнікаў, то тых, якія прававаліся на трыбунале. А на кожным такім трыбунале была процьма шляхты і магнатаў! А колькі шумных абедаў! Колькі шчодра акропленых вячэраў! Што за рух і жыццё ў вячэрні час у гаспадах! І хоць часам падгарачаная шляхта і нападала на няверных жыдоў і слаўных мяшчан, між тым, вялікі наплыў народу, што праядаў і прапіваў дабро сваіх вёсак і засценкаў, горада не абцяжарваў.

Развіццё места і грамадскія патрэбы, якія ішлі ўслед за гэтым развіццём, вымагалі зацвярджэння законаў і прадастаўлення новых свабод.

Зыгмунт III адразу ж пасля ўступлення на трон зацвердзіў Мінску яго свабоды. Прывілеяй ад 10 верасня 1592 года аддаў гораду ўсе навакольныя зямельныя надзелы і ворныя землі; дазволіў збудаваць на рацэ Пярэспе, «што выходзіць з Камаровага балота», млын і папяровую фабрыку (прыспела патрэба вырабу пісьмовага матэрыялу), а таксама другі млын на рацэ Крупец. Дазволіў наладзіць гарадскую васкабойню, а войтам і бургамістрам даў права назначаць плату за ворную зямлю і зямельныя гарадскія надзелы — на карысць самога горада.

Бо, акрамя надзвычайных падаткаў, Мінск не абавязаны быў плаціць усе астатнія і аказваць іншыя казённыя паслугі, толькі мусіў даваць падводы сваім і чужаземным паслам, якія дабіраліся з Кракава і Варшавы ў Маскву ці наадварот. Размешчаны на шляху гэтых пасольстваў, бачыў Мінск у сваіх мурах не адну знакамітую польскую і расейскую дэпутацыю, вітаючы паслоў менш ці больш зычлівай сімпатыяй, што залежала ад справы, з якой гэтыя дэпутацыі ехалі. Так, у 1606 годзе грамада тут абпырскала гразёю князя Валконскага, які спяшаўся ў Кракаў адразу пасля смерці першага Дзмітрыя Самазванца. На пасла напала адданая літоўскім магнатам і падбухторaная мінскім кашталянам Янам Гарабурдам чэрнь. Польскія прыставы, выдзеленыя для аховы пасольскай бяспекі, марна стараліся разагнаць натоўп, паясняючы паслу, што цяжка суняць такую ўсеагульную варожасць.

У часе наступнай вайны з Расеяю Зыгмунт III, які ішоў пад Смаленск на чале 12 000 войска, выехаўшы з Вільні 18 жніўня, прыбыў у Мінск 25-га і там заначаваў. У Мінску манарха вітаў гетман каронны Станіслаў Камецпольскі. Аднак раіў яму тут жа ісці да Оршы, каб прыспешыць рыцараў, якія па звычцы ледзьве валакліся.

Мяшчане падалі каралю скаргі на пана Дамбінскага, што загадваў ім капаць акопы і выбраў ад іх 6 000 польскіх фларэнаў.

Патрэба ў сумленных муніцыпальных законах выразна праглядваецца ў справе стварэння рамесніцкіх цэхаў. Мінскі цэх шаўцоў першым дабіўся каралеўскага зацвярджэння сваіх правоў на Варшаўскім сойме 1609 года.

Недзе ў гэты ж час бачым тут аселых татараў, якія пабудавалі сваю мячэць на землях царквы Божага Уваскрашэння. Пачаргова уніяцкія мітрапаліты Міхал Рагоза, Іпацій, Пацей і Язэп Руцкі пацвердзілі законнасць гэтай замены, што высветлілася ў выніку расследавання, праведзенага ў 1617 годзе мінскім кашталянам Пятром Тышкевічам. Аднак жа, нягледзячы на уніяцкі дазвол на законнае ўладанне татарамі царкоўным надзелам, дызуніяты з болем глядзелі на гэты выпадак. «Пайдзі ў Менск і спытай, — заклікае адзін з іхніх палемістаў, — на якой зямлі татарская мячэць стаіць! Даведаешся, што на той, дзе была царква Народзін Бога нашага».

Спакойнае і працавітае племя татар гэтаксама, як і ў іншых месцах, занялося тут развядзеннем садоў, гарбарствам і фурманствам. Займацца гандлем татарам і жыдам, што лічыліся чужым народам, забаранялася. Не карысталіся яны і прывілеямі, выдадзенымі самому гораду.

Жыды, як пацвярджае прывілея Зыгмунта III ад 26 мая 1606 года, на працягу ўсяго XVI стагоддзя не мелі крамаў і не займаліся гандлем у вялікім памеры; не дазвалялася ім гэта і пазней. Але з упэўненасцю можна меркаваць, што з пачатку XVII стагоддзя, насуперак закону, яны самахоць падгарнулі пад сябе ўнутраны гандаль, а ў сярэдзіне таго ж стагоддзя, калі войны вынішчылі мяшчан, не ўпусцілі мажлівасці за даўгі ці за дарагую аплату набыць найлепшыя дамы і крамы.

У гэты час у Польшчы нарадзілася ідэя аб з'яднанні грэчаскай царквы з каталіцкаю, вядомая пад назваю Уніі, натхніцелем і праваднікам якой быў набожны Зыгмунт III, падтрыманы вернымі яму езуітамі.

Ідэя гэтая выклікала нечаканыя хваляванні ў Мінску, населеным людзьмі лацінскага і рускага веравызнанняў. Міхал Рагоза, гарачы прыхільнік уніі, у 1576 годзе, як мы ўжо гаварылі, распачаў тут дзейнасць у сане сціплага архімандрыта манастыра Узнясення Хрыстовага. Не ведаем, ці доўга ён аставаўся ў гэтым сане, але, напэўна, трохі менш дзесяці гадоў, бо мусіў прайсці вышэйшыя ступені духоўнай іерархіі да таго моманту, калі ў 1588 годзе патрыярх Ярэмій у віленскай царкве прачыстай Дзевы Марыі пасвяціў яго ў сан мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсяе Русі.

Адразу пасля прызначэння на мітраполію Русі Рагоза, апіраючыся на маладых і гарачых святароў Іпацій, Пацея і Кірыла Тарлецкага, распачаў клопат пра паўсямеснае ўвядзенне уніі.

Скліканыя ім у Бярэсці Літоўскім у 1590 і 1954 гадах сіноды, што зацвердзілі уніяцтва як асобнае веравызнанне, справакавалі раскол у асяроддзі вернікаў Рускай царквы.

Міхал Рагоза памёр у 1600 годзе, а І. Пацей, які прыняў пасля яго сан мітрапаліта, задужа шчырым імкненнем сваім да паяднання з Рымам разбудзіў яшчэ большыя хваляванні сярод насельніцтва літоўскіх гарадоў. Крывавыя сцэны адбыліся ў Вільні і Полацку. Мінск, хоць і не паўтарыў ніводнай з падобных трагедый, аднак не застаўся абыякавым да справы рэлігійнага веравызнання, што заўсёды глыбока закранала людское сумленне.

У выніку своеасаблівага збегу абставін амаль усе гістарычныя асобы, якія праславіліся ў першапачатковай гісторыі уніі, распачалі сваю дзейнасць менавіта ў Мінску. Мы ўжо ўспаміналі пра Міхала Рагозу. Цяпер згадайма падаляніна Мялеція з места Смотрыча, які пад прозвішчам Сматрыцкага праславіўся спачатку як гарачы праціўнік, а пасля — як не менш апантаны паслядоўнік уніі. Як настаўнік дзяцей князя Саламарэцкага, ён, аб'ехаўшы з выхаванцамі нямецкія універсітэты, вярнуўся ў Мінск каля 1600 года і тут ужо напісаў супроць уніі свой «Трэнас», г. зн. «Плач усходняй царквы...» Праз пару гадоў Сматрыцкі стаў уніятам і, пры ўплывовай падтрымцы Пацея дасягнуўшы высокага царкоўнага сану, сам горача адмаўляў і крытыкаваў уласны твор.

Акрамя езуіта Пётра Скаргі, з водпаведдзю на «Трэнас» Сматрыцкага выступіў Гальяш Марахоўскі, каралеўскі сакратар, а пазней уладзімірскі біскуп. Таксама знакамітая гістарычная постаць. Гэтаксама, як Рагоза і Сматрыцкі, ён упершыню праявіў сябе менавіта ў Мінску.

Калі мітрапаліт Пацей пачаў прызначаць у рускія цэрквы духавенства, якое спрыяла уніі, некаторыя з мінскіх мяшчан, пакінуўшы свае даўнія парафіі, перасялілі ў 1612 годзе праваслаўных манахаў з Віленскага манастыра св. Духа, які з самага пачатку настойліва праціўіўся уніі. Магістрат, што складаўся з прыхільнікаў гэтых прышлых манахаў, аддаў ім царкву Народзін Дзевы Марыі па вуліцы Нямігскай — на пляцы, перададзеным царкве князямі Радзівіламі. Звесткі пра хваляванні і напады чэрні на уніяцкіх святароў дайшлі да гарачага прыхільніка уніі Зыгмунта III, які прыслаў у Мінск свайго сакратара Гальяша Марахоўскага, каб той разабраўся ў сутнасці справы і зрабіў строгую заўвагу вінаватым ад імя яго каралеўскай вялікасці.

Павел Люткевіч і Міхал Гаінскі, рускія святары, з'яднаныя з Рымам, узброеныя каралеўскімі лістамі і пасмялелыя ў прысутнасці Марахоўскага, пры падтрымцы судовага генерала Давіда Грыгаровіча і шляхты паспяшаліся скласці акт таго, што рабілася ў старой царкве, занятай віленскімі манахамі. На імшы яны налічылі каля 200 чалавек, бачылі падводы з дрэвам, што мяшчане-аднаверцы везлі на ўзвядзенне новай царквы. Калі ж пайшлі на ратушу, каб аддаць каралеўскія лісты і пратэстацыі, то паны бургамістры і лаўнікі прынялі іх вельмі холадна. Марахоўскаму было сказана, што каралеўскага войта пана Тарлецкага якраз на гэты час у месце няма і «што яны, гарадская рада, апроч царквы, маюць шмат усялякага іншага клопату». Працягваючы далей зневажаць яго каралеўскую вялікасць, адзін з мяшчан, Хведар Залятыла, сказаў: «Дробязь гэтыя каралеўскія лісты: я, даўшы пару чырвоных залатых, што хочаш у караля выпрашу».

Працяг. Пачатак у №№ 29—33.

НА СКРЫЖАВАННІ ТВОРЧЫХ І ЖЫЦЦЁВЫХ ДАРОГ

# «Я ПАПРАСІЎ БЫ Ў МЕФІСТОФЕЛЯ...»

[Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.].

А пасля вайны нам жылося трывожна, не адну ноч прасядзелі ў жыце, хаваючыся і баючыся, што нас вывезуць у Сібір. Хаця гаспадарка ў бацькі была і невялікая, усяго 4 гектары зямлі, ды хата была крыта бляхай. Як угледзяць упаўнаважаныя, што прыязджалі з раёна, нашу хату, адразу: раскулачваць будзем.

А хата была крыта бляхай не таму, што бацька меў лішнія грошы, а таму што яго брат, які жыў побач, забараніў будаваць дом так блізка. Пры Польшчы пажарная каманда патрабавала жорстка: каб гэтая сцяна была мураванай і дах крыты бляхай. Прыйшлося бацьку на апошнія грошы купіць тую бляху...

Памятаю, на першым курсе атрымаў суровую вымову за тое, што паехаў у вёску на вяселле стрыечнай сястры, якая брала шлюб у касцёле. Я быў «вінаваты» не толькі ў тым, што быў на вяселлі, але яшчэ больш у тым, што «не паўплываў» на сястру, каб яна не ішла ў касцёл...

— Я памятаю гэты выпадак, пра яго было голасна на ўсіх курсах нашага аддзялення журналістыкі. Нават пагаворвалі, ці не вылеціць Мальдзіс з універсітэта...

— А найбольш мне адкрылі вочы універсітэты жыцця. Многа далі тры гады працы ў раённай газеце ў Радашковічах. Па-першае, там аказаліся вельмі цікавыя людзі: удава Браніслава Тарашкевіча, тады яшчэ жыла і ўдава Аляксандра Уласава, рэдактара «Нашай нівы», іншыя цікавыя людзі. Тады мне адкрыўся вялікі пласт культуры. Упершыню за пасляваенныя гады з'явіліся публікацыі пра Тарашкевіча, і гэта не ў рэспубліканскім друку, а ў раённай газеце. Таксама і пра Уласава, хоць «прабіць» дазвол на іх было так цяжка.

Мяне часта выклікалі ў райком партыі, «на дыван» за літаратурныя публікацыі. Прыгадваю, змясцілі мы просценькі вершык на рускай мове вучня з Краснага. Канчаўся ён так: «Расцветает край любимый, будто папороть-цветок». Назаўтра выклікае мяне райкомаўскае начальства і лаецца: «Так что в конце концов, наша страна не расцветает? Ведь папороть никогда не цветет!..»

Ну і па-другое, я ўбачыў жыццё ва ўсёй непрывабнай рэальнасці. Скажам, такое: прывозяць у магазін масла, калгасы скупляюць яго, здаюць на маслазавод. Такім чынам «выконваецца план». На маслазаводзе робяць выгляд, што перарабляюць гэта масла, і зноў адпраўляюць у магазін. І ўсім добра! Але калі я паспрабаваў напісаць пра гэта фельетон, тут мяне зноў паклікалі ў райком партыі...

Наступным этапам у маім сталенні было знаёмства, а затым і сяброўства з Уладзімірам Караткевічам. Гэта мне многа дало. Ён ужо тады быў сфарміраваны неканфармістычна, па-бунтарску. Ён, калі гаварыць па шчырасці, і адкрыў мне вочы на многае, што робіцца ў краіне. Не магло прайсці бясследна і сяброўства з Барадуліным, Быкавым. Памятаю, я начаваў у яго ў Гродне тады, калі непярэдадні прыходзілі піянеры з настаўніцай біць яму вокны — «вораг народа».

Можна было лёгка зрабіць літаратурную кар'еру, але я не мог ужо быць іншым. За артыкул «Каб з пер'я выраслі галубы» (я ўжо тады быў у акадэміі) мяне з год не друкавалі. Асабліва цяжка стала пасля першай паездкі ў Лондан. Я разумеў, што ад мяне чакалі чарговай порцыі дзёгцю... Што ўспамінаць, добра, што тыя часы мінулі, бо мы былі адгароджаны ад свету, а гэта стварала комплекс непаўнацэннасці. Мы жывём лепш за ўсіх, мы думаем найбольш правільна, мы адзіныя ў свеце, хто ведае ісціну ў апошняй інстанцыі... І дажылі...

— У Адама Мальдзіса быў шлях сумленнага і руплівага аратага на ніве роднай культуры, якога вечна скублі то з аднаго боку, то з другога. Ну, што датычыцца гневу партыйных саноўнікаў, тут усё ясна. Але я ніколі не думаў, што на цябе будуць «мецы зуб» нават беларусы за Ла-Маншам. Табе ставяць у віну супрацоўніцтва з Надсонам і бібліятэкай імя Скарыны ў Лондане, з Цеханавецкім і іншымі, баючыся, відаць, што з тваёй дапамогай яны ўсіх беларусаў пераробяць на вуніятаў, а Беларусь далучаць да Польшчы. А ў Асацыяцыі беларусістаў, прэзідэнтам якой абраны Адам Мальдзіс, бачаць вялікую небяспеку. Зрэшты, зачытаю табе некалькі радкоў вось з гэтага ліста, які нядаўна прыйшоў у рэдакцыю з Лондана: «Як зможа Янка Мойсік з Рыма ці нейкі «беларусіст» з Польшчы ўзбагаціць нашу культуру, дык так і застаецца загадкай. Але яшчэ большаю загадкай для мяне ёсць тое, чаго прычапіліся да Беларусі, як мухі да смалы, чужынцы, такія, як Бэрд, Макмілін, Дзінглі, Пікарда і іншыя. Чаму яны так моцна зацікавіліся беларускай справай і чаму ім так нашы справы балючыя? Ці ж тут, у Англіі, няма такіх людзей, якія ў галечы, без прытулку, сіроты, калекі, якія патрабуюць не толькі матэрыяльнай, але і маральна-духоўнай помачы? Але нейкім чынам яны выбралі нашу бедную Беларусь...»

Што мае ў апраўданне адказаць на такія абвінавачванні прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў?

— Мне здаецца, што тут проста непаразуменне, якое адбылося з-за блытаніны Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына». Мы ставім крышку розныя мэты. Асацыяцыя беларусістаў мае задачу гуртаваць усіх, хто вывучае беларускую культуру, мову, літаратуру, гісторыю, фальклор і г. д., незалежна ад нацыянальнасці. Беларусісты — не абавязкова і найперш не беларусы ў многіх краінах. Скажам, у Японіі беларусісты — гэта японцы, ці ў Індыі — усе прадстаўнікі народаў, якія насяляюць Індыю. У Польшчы сярод сяброў асацыяцыі пераважаюць палякі, у Чэхіі — чэхі, у Германіі — немцы. І калі мы запрашалі на кангрэс з Англіі, то, безумоўна, тых англійскіх даследчыкаў, якія займаюцца беларускай культурай. Пітэр Мэё — аўтар першага падручніка па беларускай мове для англійскіх студэнтаў. Арнольд Макмілін — аўтар першай у заходнім свеце грунтоўнай, падкрэсліваю, грунтоўнай гісторыі беларускай літаратуры, Вера Рыч адкрыла англамоўнаму чытачу і Купалу, і Коласа, і Багдановіча, і Гаруна, і Бядулю, падрыхтавала і выдала дзве анталогіі. А цяпер колькі яна піша пра чарнобыльскую трагедыю для англамоўных выданняў, што вельмі важна. Ці, скажам, той жа Джым Дзінглі, які з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам МАБ: ён цяпер імкнецца, каб маладыя беларускія навукоўцы змаглі атрымаць стажыроўку ў Лонданскім універсітэце.

Мэта асацыяцыі — садзейнічанне адраджэнню беларускай культуры, пашырэнню яе ў свеце, адраджэнне спадчыны беларускага народа. І тут вельмі многа і маральна, і матэрыяльна, і навукова нам дапамагаюць нашы зарубежныя калегі. Мы праводзім многія сустрэчы. Ну, вось з апошніх — быў праведзены міжнародны «круглы стол» па пытанню: «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім». Скончыўся гэты «стол» вельмі важным падсумаваннем, дзе ўпершыню было сказана, што Вялікае княства Літоўскае — гэта Беларуска-Літоўскае гаспадарства. Спачатку нашы літоўскія калегі сустрэлі гэта ў штыкі. Але калі мы з імі правялі чарговы «круглы стол» у чэрвені месяцы ў Гервятах, яны зразумелі, што ў даным выпадку гэта — найбольш дакладнае навуковае вызначэнне. Значыць, наша маладая дзяржава, сучасная Рэспубліка Беларусь, можа лічыцца прамой спадчынніцай Вялікага княства Літоўскага, а праз яго — спадчынніцай і Полацкага княства, і Турава-Пінскага. Мы, выходзіць, як людзі.

Гэта адна вялікая справа, якую мы зрабілі, наколькі маглі. Цяпер 19—20 жніўня прайшла ў Маладзечне міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная пытанню: «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў». Гэта для нас сёння пытанне жыцця і смерці. Што зрабіць, каб нацыянальная самасвядомасць беларусаў, найперш беларусаў, пачала абуджацца? У гэтым і трагедыя беларусаў, што больш паловы іх сёння або зусім не мае сваёй нацыянальнай свядомасці, або мае вельмі неакрэсленую свядомасць — «тутэйшыя». Дык вось ад гэтай канферэнцыі мы чакаем пэўных зрухаў.

У наступным годзе мы ў Гродне праводзім міжнародную навуковую канферэнцыю пад умоўнай назвай «Рым-4». І будзе яна прысвечана таксама важнай праблеме: суадносінам паміж рэгіянальнымі і нацыянальнымі культурамі. Сёння ў маладых дзяржавах вельмі хісткае становішча, і часам некаторыя рэгіянальныя супольнасці пачынаюць патрабаваць для сябе правоў большых, чым для ўсёй нацыі. Тут я мог бы прывесці прыклады і з Беларусі, і з Польшчы, і з Украіны. У нас гэта, безумоўна,— праблема Палесся.

Я не супраць таго, каб развівалася мова на паляшуцкім дыялекце, але калі абвяшчаецца, што гэта асобная мова, калі патрабуюць для яе статуса дзяржаўнай, калі ідуць на прамую фальсіфікацыю і сцвярджаюць, што і летувісы Вялікага княства Літоўскага напісаны на гэтай мове, і калі я бачу, што гэтую паляшуцкую карту некаму вельмі выгадна разыграць, трэцяй сіле, то безумоўна трэба даць і пэўнае навуковае вызначэнне.

Да гэтай асацыяцыі горнуцца людзі самыя розныя. Мы павінны гуртаваць усіх, хто адчувае генетычную повязь з Беларуссю, не зважаючы на веравызнанне. Красамоўны прыклад — той жа самы Анджэй Цеханавецкі, які раней быў індыферэнтны да Беларусі. А калі ён пабываў тут, наведаў родныя мясціны, пабываў на кангрэсе беларусістаў, то ён цяпер вельмі многа робіць для нас. Знайшоў 25 тысяч долараў на аднаўленне пэўных аб'ектаў у Нясвіжы, каб Нясвіж быў уключаны ў спіс помнікаў ЮНЕСКА нулявога класа. Гэта вельмі важна: Мір мы ўключаем, а Нясвіж не меншы помнік архітэктуры сусветнага класа. Цеханавецкі цяпер ужо прыцягвае да супрацоўніцтва іншых людзей, многа ўклаў энергіі, каб восенню гэтага года ў Італіі была адкрыта ў Падуанскім універсітэце мемарыяльная дошка Скарыне. Яна ўжо зроблена, Валерый Янушкевіч, малады таленавіты мастак, зрабіў. Адбудзецца невялікая беларуска-італьянская сесія ў Венецыі і Падуі ў кастрычніку гэтага года.

Я павінен падзякаваць другому сябру МАБ — прафесару Сантэ Грачыёці з Рыма, які прыехаў сюды на гэты міжнародны «круглы стол», увайшоў у нашы клопаты і цяпер таксама многа дапамагае самым розным чынам.

Лісты ў асацыяцыю прыходзяць з самых розных краін свету. Нават нядаўна з Малайзіі прыйшоў ліст ад Пухоўскага, беларуса ў трэцім пакаленні. Ён там вядомы геолаг, палеантолаг, вучоны з сусветным імем. У яго прарэзалася цікавасць да Беларусі, ён вывучае ўжо беларускую мову, эканамічна нам хоча дапамагчы. Да асацыяцыі праяўляюць вялікую цікавасць і арыстакраты, чаго раней не было: тыя ж самыя Радзівілы, граф Ксаверы Пуслоўскі са Слоніма, я б мог назваць дзесяткі прозвішчаў...

— Прабач, што перапыняю цябе, але бачу, што Міжнародная асацыяцыя беларусістаў — гэта асобная тэма, вельмі грунтоўная і багатая. Абяцаю, што мы праз нейкі час раскажам чытачам пра дзейнасць сяброў Беларусі ва ўсім свеце. І той, хто бачыць у гэтым нейкую небяспеку для Беларусі, пераканаецца, што глыбока памыляўся.

А цяпер мне зноў хацелася б вярнуцца да асобы Адама Мальдзіса. Літаратуразнаўства, публіцыстыка, мастацкая літаратура: «Творчае пабрацімства» — даследаванне беларуска-польскіх літаратурных сувязей, «Падарожжа ў XIX стагоддзе» — нарысы пра дзеячаў беларускай культуры, «Астравеччына — край дарагі...» — нарыс, дзе пераплятаюцца мастацкае слова, краязнаўства, этнаграфія, «Восень пасярод вясны» — раман, сціпла названы аўтарам аповесцю. І ўсё гэта напісаў адзін чалавек — Адам Мальдзіс. Табе не здаецца, што ты раскідваешся? Можа лепш было б засяродзіцца на нечым адным. І наогул, што табе найдаражэйшае з напісанага?

— Можа гэта і так. У мяне многа часу пайшло на чарговую работу па падрыхтоўцы 6-томнага бібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі». Восем гадоў аддаў на гэтую працу. Мне гавораць: «Ты гэтых восем гадоў згубіў». Але ж ёсць цяпер картатэка, банк інфармацыі, ён пашыраецца і становіцца банкам інфармацыі па культуры.

Сапраўды, я распыляўся: з XIX стагоддзя перайшоў у XVIII, потым крышку зачапіў XVII; звярнуўшыся да Скарыны, перакінуўся ў XVI стагоддзе. Хаця найбольш упэўнена адчуваю сябе ў XVIII—XIX стагоддзях. Настаў час, відаць, сканцэнтравацца на галоўным: дапісаць тое, што недапісана, тое, што распачата. А там ёсць і мастацкія творы, і навуковыя працы. Але, прызнаюся шчыра, пакуль што адбірае час усялякая арганізацыйная мітусня.

Найбольш дарагая для мяне кніга «На скрыжаванні славянскіх дарог». У ёй я паспрабаваў рэабілітаваць XVII—XVIII стагоддзі, так званы пераходны перыяд ад беларускай культуры старажытнага тыпу да новай беларускай літаратуры. Лічылася, што гэта наогул пустое месца: паланізацыя і каталізацыя давялі народ да летаргічнага сну. Такая пазіцыя адпавядала пазіцыі афіцыйнай: у Беларусі ўсё пачыналася толькі з Кастрычніка.

Я паказаў, што ў нас была своеасаблівая ананімная літаратура, быў магутны пласт песенна-інтымнай лірыкі, была багатая парадыйная літаратура. Значыць, у Беларусі ўсё было, як у людзей. Было і сваё барока, было і сваё асветніцтва ў другой палове XVIII стагоддзя. А раней жа лічылася, што гэта магло быць толькі ў Расіі ці на Украіне, у Літве, у нас жа — пустыня.

На гэтую кніжку я патраціў 10 гадоў.

А калі гаварыць пра тое, што бліжэй да сэрца, то гэта — аповесць «Восень пасярод вясны».

— Шэсцьдзесят гадоў — тая мяжа, дасягнуўшы якой, чалавек мае звычку азірнуцца назад, каб пабачыць, што там за ім засталося, што паспеў зрабіць. Аб чым ты шкадуеш, азіраючыся назад? Ці гаворыш сабе са шкадаваннем: «Гэтага я так і не паспеў зрабіць»?

— Калі б раптам з'явіўся Мефістофель і прапанаваў тры жаданні, то першае, пра што я папрасіў бы яго,— добра ведаць тры мовы. Літоўскую, таму што гэта — мова маіх продкаў, лацінскую і, безумоўна, англійскую. Другое жаданне — дапісаць тое, што ляжыць у рукапісах,— «Быт і норавы беларусаў XIX стагоддзя». І трэцяе,— каб нанава пачаць фарміраваць банк інфармацыі па ўсёй беларускай культуры.

— Адам Мальдзіс мог бы стаць палітыкам, каб не падножкі моцных партыйных сапернікаў на перадвыбарчых сходах на тваёй Астравеччыне. Не шкадуеш, што прайграў выбарчую кампанію?

— Не, не шкадую. Я магу толькі паспачуваць нашым парламентарыям, бачачы, у якіх умовах яны працуюць. Часам з палёгкай думаю: «Добра, што я не трапіў туды». А тады перамагчы я не мог, мне гэта было зразумела з самага пачатку. Калі галоўны канкурэнт узначальвае ўсю вобласць, то дзе мне дужацца з ім. Давераная асоба Арцымені, старшыні Гродзенскага аблвыканкома, гаварыў выбаршчыкам: ён нам і дарогу заасфальтуе, і ферму пабудуе. А што можа пісьменнік?

Я гаварыў пра законы, якія трэба прымаць, але закон для вясковых людзей гучыць абстрактна, а ферма, дарога — канкрэтна. Асабліва, калі брыгадзір скажа: будзеш галасаваць не за таго, каго трэба,— ні каня не атрымаеш, ні сена. І потым — сярод чатырох канкурэнтаў я адзін выступаў на беларускай мове. А гэта таксама не спрыяла, хаця ў зале заўсёды знаходзілася некалькі чалавек, якія пасля сходу падыходзілі і дзякавалі.

Усё, пра што я гаварыў тады, што ўспрымалася ў штыкі і было выкарыстана супраць маёй кандыдатуры партапаратчыкамі, сёння гэта рэальнасць: і суверэнітэт, і эканамічная самастойнасць, і многае іншае. І мне не сорамна цяпер: на перадвыбарчых сходах я не будаваў замкаў на лёдзе.

Мне здаецца, што Адам Мальдзіс ніколі не будаваў замкаў на лёдзе, а чаго дамагаўся, то толькі цярплівай і бясконцай працай. Такі ён быў і ў студэнцкія гады, такі і цяпер. Дырэктара нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны Адама Восіпавіча Мальдзіса я застаў у адпачынку — ён меў водпуск... за мінулы год. І ў гэты «святы час» разрываўся паміж роднай вёскай на Астравеччыне, куды паехаў папрацаваць, прыхапіўшы рукапіс кнігі Анджэя Цеханавецкага, і сталіцай, дзе павінен быў уладжваць розныя справы, звязаныя з канферэнцыяй у Маладзечне.

— Самы лепшы адпачынак — гэта работа,— стомлены рознымі турботамі, жартуе ён.

Дай Бог, каб яму стала сіл яшчэ на многія гады, каб жылося добра і спакойна, як таго хацеў яго бацька.

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

*НАША СПАДЧЫНА*

# З КАРЭННЯ САСНОВАГА ДЫ ЯЛОВАГА

**IV**

Многа ўсяго было на кірмашах, што мог набыць селянін для працы і гаспадаркі. Значнае месца тут займалі прадметы, сплеценыя з лазы, саломкі, лыка, бяросты, чароту, розных карэнняў. Гэта кошыкі пад бульбу ці для грыбоў, казубкі на ягады, лапці лыкавыя, пчаліныя вуллі, шпакоўні, розных памераў корабы, велізарныя і маленькія збанкі, плеценыя з саломкі ці гліняныя, потым абплеценыя зверху той жа саломай ці лазовымі пруцікамі, калыскі, вялізныя бочкі для збожжа, розных сухіх прадуктаў, кашы для сала, каўбас і многае іншае. Часам для пляцення майстры выкарыстоўвалі маладыя пруты бэзу, іншыя гнуткія матэрыялы, што падыходзяць для такой справы. Салому маглі спалучаць з расшчэпленай лазой альбо яловымі і сасновымі карэннямі. Вырабляючы плеценыя куфры, карысталіся адначасова саломай і арэшынай, бяростай і карэннямі, былі таксама іншыя спалучэнні розных матэрыялаў, адзін з якіх выкарыстоўвалі для пляцення, а другі — як асноўны матэрыял, з якога рабілі каркас. Пляценнем валодаў амаль кожны, як мужчыны, так і жанчыны. Вядома, хтосьці плёў простыя рэчы, а іншы — больш складаныя па форме, з мастацкім густам.

Сярод мноства плеценых прадметаў амаль у кожнай хаце быў выраб, якому не надавалі асаблівай увагі, рэдка прадавалі яго на кірмашы, не кідаўся ён у вочы прахожаму, бо захоўваўся выключна на гарышчы. Маецца на ўвазе так званая арэшніца. Пляліся арэшніцы з сасновых ці яловых карэнняў, з лазовых пруццяў, часам з маладых галінак ляшчыны. Для вырабу гэтых рэчаў карысталіся спосабам пляцення «ў адзін пруцік, у адну лазінку». Арэшніцы мелі розную форму, што нагадвала конус, шар, куб, выцягнутую форму курынага яйка. Усе арэшніцы былі з аднаго ці абодвух бакоў завужаны. Калі выраб пплялі з карэння, то каркас рабілі з грубой лазіны ці арэшыны. Уся нямудрая канструкцыя мацавалася на палцы, якая была галоўнай часткай каркаса. Потым палка расшчаплялася на некалькі частак, што разыходзіліся ў розныя бакі адпаведна задуманай форме прадмета. Кожная арэшніца абавязкова мела адтуліну квадратнай ці прамавугольнай формы памерам прыкладна 30х30, 30х40 сантыметраў.

Думаю, чытач здагадаўся, для чаго выкарыстоўвалі гэты плецены прадмет. Вядома, пад лясныя арэхі. Ачышчаныя або неачышчаныя арэхі змяшчалі ў такую пасудзіну, запаўняючы да самага верху. Маленькая адтуліна не давала магчымасці арэхам высыпацца, відаць, кемлівы майстар прыдумаў гэтую канструкцыю. Ёмістасць з арэхамі змяшчалі на гарышчы, уставіўшы канец палкі ў якую- небудзь расшчэліну бэлькі ці другое высокае месца. У такім стане арэхі былі, пакуль не высыхалі, словам, да зімы. Высушаны ласунак даставалі з гарышча і насыпалі, колькі патрэбна было. Для дзяцей арэшніца прыносіла дваякую радасць, бо была цікавай цацкай-бразготкай з вельмі смачнымі ляснымі пачастункамі. Арэхі, што захоўваліся ў арэшніцы, высыхалі хутка. Але найчасцей арэшніцу адносілі на гарышча і не чапалі аж да калядных свят. Напярэдадні каляд уносілі поўную арэшніцу і аддавалі малым.

Прадаўгаватай формы арэшніцы лічыліся больш за іншыя зручнымі для сушкі арэхаў. Наогул памеры вырабу былі не надта вялікія, прыблізна 30—50 сантыметраў даўжынёй і 20—30 сантыметраў шырынёй. Арэхаў у беларускіх лясах і цяпер многа, раней яшчэ болей было, таму арэшніца была вядома, лічу, не толькі на тэрыторыі Гродзеншчыны. Часам арэшніца выпляталася падобная на дзежку для захавання рыбы. Майстар-пляцельшчык асаблівага значэння гэтаму вырабу не надаваў, плёў іх галоўным чынам у перапынку паміж пляценнем больш патрэбных у побыце рэчаў.

— Аднойчы пасвіў я кароў у лесе, — расказваў жыхар вёскі Якубовічы Шчучынскага раёна Міхаіл Траян, — і знайшоў вельмі ўраджайны арэшнік. Арэхаў — мора цэлае! А збіраць няма куды. Зняў кашулю, завязаў рукавы і прыладзіў пад арэхі. Кашуля яшчэ добрая была, ды вышываная, шкада стала, як паглядзеў, у што яна ператварылася. Я хлопец кемлівы ў маладосці быў, дай, думаю, паспрабую сплесці нешта пад арэхі. Неяк само сабой выйшла, што атрымалася менавіта арэшніца. Ведаеце, я тады чуў пра іх, але не бачыў гэтых самых арэшніц, магчыма, у многіх яны былі, асабліва, у каго дзеці малыя. Словам, мне выпадак дапамог прыдумаць арэшніцу. Потым я многа іх плёў розных па форме і памерах, з розных матэрыялаў, а тую першую — толькі з пруццяў таго самага арэха, з ляшчыны.

Даўно ўжо не пляце арэшніц і кошыкаў майстар з Якубовіч. Вайна пакалечыла рукі гэтаму чалавеку, не да пляцення цяпер. Не тыя і зубы, каб арэхамі ласавацца, жартуе Міхаіл Вікенцьевіч. Зберaглася толькі адзіная арэшніца, сплеценая ў далёкія даваенныя гады. Лазіначкі адна ў адну, пруточкі прылягаюць умела ды ладна. Гэта колькі гадоў прайшло! А простая лазовая арэшніца прыгожая, быццам новая, толькі з пячаткай ды пахам даўніны. Зручная, арыгінальная, цудоўна выканана, па-майстэрску. Майстар, назіраючы за маім захопленым позіркам, быццам апраўдваўся:

— Любую справу я рабіў заўсёды ладна. Калі ажаніўся з маёй Зінаідай, дык яшчэ болей стараннасць праяўляў, бо надта добрая майстрыха мая гаспадынька сама. Ці то ткала, ці вышывала альбо карункі вязала — усё гарэла ў яе руках.

Тэхніка пляцення арэшніц вельмі простая. Пляценне выконваюць яшчэ зялёнымі пруткамі ці карэньчыкамі, з якіх здымаюць беражліва верхні пласт — танюткую кару. Сплецены выраб вельмі прыгожы па колеру, жоўта-салатны, калі матэрыял быў з лазы ці ляшчыны, залаціста-руды, калі майстар карыстаўся карэннямі елкі ці сасны. З часам арэшніца набывала звычайны колер высахшай лазы ці карэнняў — залацісты, які праз гады крыху цямнеў і набываў шэрае адценне, уласцівае старой драўніне.

Менавіта таму, што арэшніцам не надавалі асаблівай увагі, іх не надта бераглі. Выраслі дзеці, унукі, і рэч гэту выкідалі альбо выносілі ў клець ці закідвалі на гарышча. Але найчасцей проста знішчалі. Таму цяпер так мала захавалася арэшніц. Але, хто ведае, можа мы дрэнна шукаем такія цікавыя этнаграфічныя прадметы?..

**Валянціна ВОЛАХ.**

## *З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ*



**Самыя розныя пачуцці зведваеш на выставе ў Рэспубліканскім палацы мастацтва. Смутак, боль і раптам радасць. Сярод іншых экспазіцый вылучаюцца дзве персанальныя выставы, якія нават размешчаны ў адной зале — Вячаслава Кубарава і Уладзіміра Міхайлоўскага.**

**Уладзімір Міхайлоўскі меў вельмі знакамітых настаўнікаў — Віталя Цвірку, Уладзіміра Сухаверхава. Вячаслаў Кубараў вядомы на Беларусі як мастак кіно. Ён аформіў такія фільмы, як «Не плач, Алёнка», «Масква—Генуя», «Альпійская балада».**



**У. Міхайлоўскі і В. Кубараў — розныя па светаадчуванню і творчаму почырку мастакі. Аднак іх збліжае замілаванасць беларускай прыродай. Адзін і другі працуюць у асноўным у жанры пейзажа. Карціны, прадстаўленыя ў палацы,— гэта пераважна работы апошніх гадоў.**

**«Пячорскі манастыр на Волзе» (1986 г.) В. Кубарава выкананы ў строгіх цёмных танах. Уражвае прыгажосць архітэктуры гэтага будынка. Нярэдка на карцінах Кубарава — вясна. Бачыць яе мастак чамусьці пераважна ў чорным, шэрым колерах. Прырода не радуе. Навакол — гразь, туманы. Разлад з самім сабой і неадольны смутак у душы. Менавіта такія думкі ўзнікаюць, калі глядзіш на «Вясну ў Вязынцы», «Крыгаход на Прыпяці». І нават, калі для цябе вясна — зусім іншае, мастак прымушае паглядзець на яе сваімі вачыма: убачыць сонную прыроду пасля зімы, прысадзістыя шэрыя хаткі.**



**Псіхалагічнае палатно «Прыйшоў салдат з фронта» мастак пісаў 3 гады. Гэтая карціна, як і многія іншыя работы В. Кубарва, уражвае сілай пачуцця. Салдат-калека стаіць ля пераправы. Глядзіць на сваю вёску і бачыць, што няма яе, згарэла. Балюча. Горам людскім прасякнута карціна «Набат Хатыні».**

**Тэма вайны і людскіх пакут трывожыць і Міхайлоўскага. Але ж бачыць ён яе па-іншаму, не так, як Кубараў. Карціна «Перамога» напоена радасцю заканчэння вайны. Салдата гушкаюць на руках сябры. Людзі шчаслівыя.**

**У. Міхайлоўскі і ў прыродзе шукае радасць. Вясна ў яго — гэта адраджэнне прыроды, пачатак новага жыцця.**

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. КУБАРАЎ. «Пячорскі манастыр на Волзе»; У. Міхайлоўскі. «Памяць» і «Рабіна».**

## *ПРАКТЫЧНЫЯ «ЛІТВІНЫ»*

Мастацка-камерцыйная фірма «Літвіны», створаная пры Саюзе мастакоў рэспублікі, мае намер «выходзіць у людзі» як мага часцей, бо асноўная мэта стварэння новай камерцыйнай структуры — дабрачыннасць.

А дапамагаць беларускія жывапісцы будуць перш за ўсё дзецям, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Частка заробленых сродкаў будзе добрай дапамогай самім мастакам, якім цяпер таксама жывецца несоладка. Зрэшты, усё гэта наперадзе. А сёння ў «Літвінаў» дэбют.

— І дэбют, думаю, паспяховы, — гаворыць прэзідэнт фірмы мастак Сяргей Салохін. — Для гэтага ёсць усе падставы: на выстаўцы каля 140 работ сапраўдных мэтраў беларускага жывапісу і графікі. Імёны Мікалая Кірэева, Вячаслава Кубарава, Уладзіміра Уродніча, Уладзіміра Кожуха, Міхаіла Басалыгі вядомыя не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. А таму паглядзець на творчасць майстроў апошніх гадоў прыйдуць многія. Але ў нас сёння не проста выстаўка, а выстаўка-продаж палотнаў, па нашых мерках, вельмі дарагіх. Кошт многіх з іх вылічваецца сотнямі тысяч рублёў. І, зразумела, не кожнаму такія цэны па кішэні. Аднак упэўненасць у камерцыйным поспеху ёсць. Напярэдадні многімі работамі мастакоў цікавіліся кітайцы, амерыканцы, прадстаўнікі іншых краін. Што зробіш, карціны пакінуць Беларусь, але гэта сёння адзіны спосаб падтрымаць дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» ды і мастакоў — таксама.

З МІНУЛАГА

# ПЕРШЫ ВІЦЕБСКІ ХРАМ

Узвядзенне ў Віцебску першых каменных храмаў мясцовы летапіс прыпісвае княгіні Вользе. «Вымуравала на Верхнім замку царкву св. Міхаіла, а на Ніжнім — Дабравешчання», — гаворыцца ў ім.

Адносна апошняй пытанні яе будаўнічай тэхнікі, кампазіцыі, плана і часу ўзвядзення больш ці менш на сёння ўжо ясныя. На думку вядомага даследчыка старажытнарускай архітэктуры прафесара П. Рапапорта, царква Дабравешчання магла быць збудавана ў 30—40-я гады XII стагоддзя. Аб царкве ж св. Міхаіла, акрамя кароткага паведамлення ў летапісе, ніякіх звестак амаль што няма. Сабраны літаральна па драбніцах матэрыял дае магчымасць зрабіць першы крок у неруш гэтай праблемы.

Так, у 1895—1896 гадах, у час раскопак, што праводзіў на Замкавай гары вядомы даследчык віцебскіх старажытнасцей прафесар А. Сапуноў, былі выяўлены рэшткі падмурка, ніжні паверх будынка, каменныя прыступкі і падлога, выкладзеная керамічнай пліткай і каменем. У 1964 годзе ў час земляных работ, што вяліся побач з Віцебскім педінстытутам аматарам віцебскіх старажытнасцей дацэнтам М. Рыўкіным, была прасочана кладка з плінфы на вапняковай рашчыне. Вапняковыя пліты, плінфа, керамічныя пліткі падлогі, смальта, аконнае шкло і фрагменты пакрыцця купала храма былі сабраны і ў раскопках, што вяліся на Верхнім замку Віцебска ў 1978—1988 гадах М. Ткачовым і Л. Калядзінскім.

Плінфа мела таўшчыню 3,7 сантыметра і была блізкая ў плане да квадрата. Вапняковыя пліты мелі сцясаныя верх і ніз, а бакі іх захоўвалі свой натуральны выгляд. Пліткі падлогі па форме ёсць стрэлападобныя з рамбічным завяршэннем, даўжынёю каля 12 сантыметраў, і трохкутныя, з даўжынёю бакоў 7,5 сантыметра. Зверху гэтыя пліткі былі пакрытыя палівай ярка-жоўтага і травяніста-зялёнага колеру. Цікава, што прамых аналагаў віцебскім пліткам у храмах Русі XII—XIII стагоддзяў пакуль што не сустрэта. Аконнае шкло зеленаватага колеру мела круглы абрыс і было таўшчынёю каля 1 міліметра. Па свайму хімічнаму саставу яно паходзіць, хутчэй за ўсё, з Германіі. Смальта — кубік з празрыстага бясколернага шкла памерамі 9x8x8,5 міліметра і пакрыты зверху пазалотаю. У X—XI стагоддзях такая смальта ўжывалася ў храмах для дэкору алтароў. Па хімічнаму саставу смальта з Віцебска мае аналагі сярод візантыйскіх узораў. Фрагменты купальнага пакрыцця ад храма ўяўлялі сабою кавалкі волава — цынкавага сплаву.

На падставе гэтых сведчанняў можна, хаця б схематычна, уявіць аблічча віцебскага храма св. Міхаіла.

Віцебскі храм св. Міхаіла быў збудаваны ў тэхніцы змешанай кладкі (плінфа і вапняковыя пліты). Падлога царквы ўяўляла сабою маляўнічую кампазіцыю з жоўтых і зялёных палосаў у абрамоўцы зубчатага шляку з плітак такога ж колеру, але трохкутнай формы. Алтар храма быў аздоблены залачонаю мазаікай. Праз круглыя шыбы ў памяшканне храма струменіліся промні зеленаватага святла, граючы на жоўта-зялёных стужках падлогі і залачоным фоне алтара. Цьмяна-шэры купал храма кантраставаў на блакіце віцебскага неба з бела-чырвона-белымі радамі плінфы і вапняковых плітаў. Больш дакладна ўявіць аблічча гэтага храма сёння немагчыма.

З якой нагоды быў збудаваны храм св. Міхаіла? Вядома, што на Русі кожны ўдзельны князь імкнуўся ўзвесці свой папячыцельскі храм. Такім храмам найчасцей з'яўляўся храм у гонар св. Міхаіла, памочніка князёў у ратных справах. У шэрагу ўдзельных цэнтраў такія храмы будаваліся на дзядзінцах гарадоў ці паблізу ад іх. Ёсць выпадкі, калі летапіс указвае на знаходжанне такога храма на княжацкім дворышчы, як гэта мела месца, напрыклад, у Чарнігаве. У Віцебску таксама было княжацкае дворышча, пра якое згадваецца ў пісьмовых крыніцах XIII стагоддзя. Найбольш спрыяльнае месца для яго было б на Замкавай гары, якая мясцілася на дзядзінцы старажытнага Віцебска і дзе, дарэчы, і былі выяўлены рэшткі гэтага храма. Размешчаны на Замкавай гары, якая ўзвышалася над наваколлем на 9—10 метраў, храм св. Міхаіла служыў дамінантаю віцебскага дзядзінца, а разам з цэрквамі св. Пятніцы і Дабравешчання, узведзенымі трохі пазней за яго на вакольным горадзе, яны вызначылі сілуэт Віцебска сярэдзіны XII—XIII стагоддзяў.

Калі быў збудаваны віцебскі храм св. Міхаіла? Археалагічныя даныя сведчаць пра канец XI — першую палову XII стагоддзя. Але на мяжы XI—XII стагоддзяў усталёўваецца Полацкая епархія, у склад якой уваходзіў і Віцебск, што прадугледжвала мець яму свой уласны прыход. Прыкладна ў гэты ж час Віцебск вылучаецца ва ўдзельнае княства і дастаецца аднаму з малодшых сыноў Усяслава Брачыславіча, хутчэй за ўсё, Святаславу, які ў 1129 годзе разам са сваімі братамі быў сасланы ў Візантыю. Улічваючы гэтыя абставіны, можна меркаваць, што будаўніцтва храма св. Міхаіла адбылося да гэтых падзей і прыпадае на першую чвэрць XII стагоддзя.

Храм быў разбураны ў сярэдзіне — другой палове XIV стагоддзя. Гэта магло адбыцца ў час пажару 1335 года, адзначанага ў летапісе і прасочанага археалагічна, альбо ў час аблогі Віцебска ў 1396 годзе войскамі Вітаўта, калі па Верхняму замку стралялі з гарматаў. У наступныя часы ён быў адноўлены. Так, у другой палове XVI стагоддзя гэты храм быў драўляны на падмурку. У храме мелася выява князя Альгерда і княгіні Ульяны. Відарыс царквы св. Міхаіла ў другой палове XVII стагоддзя ёсць на чарцяжы места Віцебска 1664 года. Гэта двухкамерны зруб з ганкам і званіцаю ў выглядзе чатырохкутнай вежы. У XVIII стагоддзі храм моцна пацярпеў ад пажару і больш не аднаўляўся.

Зараз, калі ідзе працэс абуджэння гістарычнай памяці, вяртання духоўных скарбаў, ёсць патрэба ўшанаваць для нашчадкаў гэтае месца, устанавіўшы на ім невялікую капліцу.

Лявон КАЛЯДЗІНСКІ.





**Стаіць гэтая хатка пад чаротавым дахам у акружэнні магутных бяроз на беразе Ясельды. За сто гадоў ёй, і няма ў вёсцы Высокае, а, магчыма, і ва ўсім Бярозаўскім раёне, больш старога дома. Жыў тут некалі Раман Лысюк — старшыня мясцовага калгаса.**

**Даўно ўжо няма ў жывых Рамана Фаміча, а яго дом жыве новым жыццём. Па ініцыятыве вучняў мясцовай школы тут створаны краязнаўчы музей. Большую частку экспанатаў незвычайнай экспазіцыі дзеці знайшлі ў самім доме. А яшчэ — старанна агледзелі гарышчы і хлявы сваіх бабуль і таксама нямала цікавых прадметаў знайшлі: старадаўні куфар, прялку, газавыя лямпы, пляцёнкі з лазы для захоўвання прадуктаў, рыбалоўныя снасці і многае іншае, без чаго быў немагчымы побыт селяніна. Дырэктар Высокаўскай школы Кацярына Мікіціч расказала, што музей прыцягвае ўсіх, хто з любоўю ставіцца да мінуўшчыны роднага краю. А для правядзення ўрокаў гісторыі лепшага нагляднага матэрыялу нідзе не знайсці.**

**Глядзіць хатка сваімі падслепаватымі акенцамі на буйна квітнеючую вакол яе шыпшыну, на абцяжараныя паспяваючымі пладамі галіны старога саду.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: музей у вёсцы Высокае Бярозаўскага раёна.**

**Фота аўтара.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### БОРШЧ З РЭПАЙ

**У прыгатаваны булён з касцей дабавіць нарэзаныя брусочкамі бульбу і рэпу, варыць да паўгатоўнасці. За 10 мінут да заканчэння варкі дабавіць адвараныя і нашынкаваныя саломкай буракі, спасіраваныя на свіным тлушчы ці маргарыне рэпчатую цыбулю, моркву, тамат-пюрэ, спецыі, соль і варыць на малым агні да гатоўнасці.**

**Пры падачы на стол боршч запраўіць смятанай.**

**500 грамаў гавяджых ці цялячых костак, 1 бурак, 4 бульбіны, 2 рэпы, 1 цыбуліна, 1 морква, 3 сталовыя лыжкі тамату-пюрэ, 20 грамаў свінога тлушчу ці маргарыну, 1 сталовая лыжка 3-працэнтнага воцату, 2 сталовыя лыжкі смятаны, спецыі, соль..**

### БУЛЬБЯНЫЯ ВАЛАВАНЫ

**Бульбу зварыць і гарачай працерці. Дабавіць яйка, соль, перамяшаць. З дапамогай трубачкі (у выглядзе кулька), зробленай з пергаментнай паперы, выпусціць змесціва на змазаную маслам бляху, зрабіўшы дно, а затым бакавыя сценкі. Валаваны можна напоўніць прагрэтым зялёным гарошкам ці кансерваванай кукурузай, запраўленай малочным соусам, а таксама грыбамі, смажанымі ў смятане. Запячы ў духоўцы.**

**8 бульбін, 1 яйка, 1 сталовая лыжка масла, соль.**

**Для фаршу: 200 грамаў зялёнага гарошку ці кукурузы, 2 сталовыя лыжкі малочнага соусу.**

### БУЛЬБЯНА-ПРАСЯНАЯ ЗАПЯКАНКА

**Адварную бульбу працерці, дабавіць невялікую колькасць прасяной кашы, масла, сырыя яйкі, соль, дробна нарэзаную і падсмажаную да светла-залацістага колеру рэпчатую цыбулю і старанна перамяшаць. Бульбяную масу пакласці на разагрэтую патэльню, папярэдне змазаную тлушчам, разраўняць, зверху змазаць смятанай ці топленым маслам запячы ў духоўцы.**

**8—10 бульбін, 1-1,5 шклянкі прасяной кашы, 2-3 яйкі, 2-3 сталовыя лыжкі смятаны, 50 грамаў тлушчу, 1-2 сталовыя лыжкі масла, 3 цыбуліны, соль.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1486.
Падпісана да друку 17.08.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12